—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
31
ЛІПЕНЯ
1992 г.
№ 31 (3649)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## МОСТ УЗДОЎЖ РАКІ?

**Міхась ПЯНКРАТ: «Пакрыўджаны і абрабаваны беларускі народ яшчэ не згубіў апошнюю надзею на лепшае. Але трэба памятаць, што ў некаторых кутках былога СССР ціхая перабудова пастунова перарасла ў барыкадную вайну. Не прывядзі Бог, каб і наш малады бел-чырвона-белы сцяг зноў стаў чырвоным ад крыві...»**

СТАРОНКІ 2—3, 14—15

## «БАСОВІШЧА-92»

**Фотарэпартаж са свята маладой беларускай музыкі на Беласточчыне.**

СТАРОНКА 4

## СУВЕРЭНІТЭТ. КУЛЬТУРА. САМАСВЯДОМАСЦЬ.

**Мікола КРУКОЎСКІ: «У аснове дзяржаўнага суверэнітэту мусіць ляжаць развітая нацыянальная самасвядомасць. Толькі пры гэтай умове суверэнітэт становіцца паўнацэнным, перастае быць фармальна юрыдычнай, папяровай дэкларацыяй».**

СТАРОНКІ 5, 12

## ЛІЁНСКІ ТЫДЗЕНЬ

**Працяг нататак Сяргея ЗАКОННІКАВА пра паездку ў Францыю.**

СТАРОНКІ 8—11

## «ДЛЯ ЗАРОБКУ НІКОЛІ НЕ ПІСАЎ...»

**Інтэрв'ю Леаніда ПРАНЧАКА з дзеячам беларускай эміграцыі, пісьменнікам Кастусём АКУЛАМ.**

СТАРОНКІ 14—15

## ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

**Са спадчыны пісьменніка і педагога Кандрата ЛЕЙКІ.**

СТАРОНКА 16



**Янка Брыль...**

**Ужо шмат гадоў гэтае імя — у шэрагу самых слынных імёнаў зямлі беларускай. Выкшталцоны майстар слова, сумленнейшы руплівец на ніве нашага прыгожага пісьменства. Вялікі патрыёт і грамадзянін, высакародны, інтэлігентны, прыгожы — у самым шырокім значэнні гэтага слова — чалавек. Народны пісьменнік найперш па сутнасці, духу і змесце сваёй творчасці. Уся яна — ад бліскучых апавяданняў, выдатных аповесцей, удумлівых эсэ і нарысаў да адмысловага рамана і дзівосна шчодрых на хвалюючыя дарункі розуму і душы мініяцюр — сцвярджае багацце і хараство роднай зямлі і роднага народа, абараняе іх гісторыю, традыцыі і звычаі, служыць дабру і справядлівасці. І за ўсё гэта — вялікая людская пашана і любоў да яго, шырокае прызнанне здзейсненага ім.**

**4 жніўня Янку Брылю — 75. «ЛіМ» шчыра віншуе паважанага Івана Антонавіча з юбілеем і зычыць яму спаткаць яшчэ многа-многа сонечных, умалотных жніўняў.**

Матэрыялы пра юбіляра — на стар. 6—7.

Фота Ул. КРУКА.



Штандар наш бел-чырвона-белы...

Але ўвечары напярэдадні выхадных у «ЛіМ» патэлефанаваў чытач з Віцебска і з прыкрасцю паведаміў, што ў цэнтры горада вывешаны дзяржаўныя сцягі... БССР. Што гэта? Выпадковасць? Наўрад ці.

Надарылася днямі прачытаць «Віцебскі рабочы» за 21 ліпеня г. г. Абласная незалежная масавая газета (як яна сябе называе) змясціла ў гэтым нумары матэрыялы ў парадку абмеркавання падзеі, якая адбылася ўжо колькі часу назад, — сходу прадстаўнікоў працоўных калектываў горада. Публікуецца тут зварот да народных дэпутатаў Беларусі, прыняты сходам. Прывяду ўсяго дзве вытрымкі: «Падтрымаць рабочых г. Мінска, якія заклікалі дэпутатаў Вярхоўнага Савета выступіць ініцыятарамі аднаўлення Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Аднавіць дзеянне Канстытуцыі СССР і БССР у нашай рэспубліцы...»; «...Адкрыць рахунак у Віцебскім дзяржаўным банку па збору сродкаў у дапамогу працоўным Левабярэжнага Прыднястроўя, якія вядуць узброеную барацьбу...»

Каментарыі, відаць, не патрэбны. Але варта ўзгадаць адну дэталь — на сходзе тым адным з першых выступіў старшыня Віцебскага гарвыканкама М. Федарчук. Афіцыйны прадстаўнік улады...

Давялося днямі стаць сведкам і такой размовы. Малады хлопец радасна гаворыць сябру: «А я і не ведаў, што ў панядзелак не трэба на працу ісці. Свята, аказваецца, нейкае... Дзень марскога флоту, ці што...» Што хацець ад гэтага хлопца, калі нашы дзяржаўныя мужы дакладна не вызначыліся ў сваіх адносінах да свята 27 ліпеня? У адным з інтэрв'ю напярэдадні старшыня беларускага парламента фактычна пагадзіўся з тым, што дата святкавання магла б, у прынцыпе, быць выбрана й іншая. А лідэр парламенцкай апазіцыі БНФ у сваім выступленні ў нядзелю па Беларускім тэлебачанні прапанаваў разглядаць прыняцце Дэкларацыі аб суверэнітэце як усяго толькі адзін з этапаў на шляху да незалежнасці. Галоўным жа святам, на яго думку, трэба лічыць 25 сакавіка — дзень абвяшчэння БНР.

Напэўна, прыхільнікі розных думак могуць згадзіцца ў адным — прыняць Дэкларацыю аб суверэнітэце, ці абвясціць незалежнасць яшчэ не азначае пабудаваць суверэнную незалежную дзяржаву. Таксама, як аб'явіць нацыянальнае свята яшчэ не азначае, што свята гэтае стала патрэбай душы кожнага грамадзяніна.

Канечне, прыемна ўсведамляць, што ўсяго за год Рэспубліку Беларусь прызналі больш як сто краін свету. Але ці трэба даказваць, што пачуццё годнасці грамадзяніна залежыць не толькі ад міжнароднага аўтарытэту краіны, але не ў меншай ступені ад таго, наколькі грамадзяне гэтай краіны далучаны да стварэння дзяржаўнасці, нацыянальна-культурнага будаўніцтва. А з другога боку — наколькі дзяржава ўлічвае правы і інтарэсы грамадзяніна, дбае пра яго сацыяльную абароненасць ці хаця б элементарныя чалавечыя ўмовы жыцця. Тут работы, зразумела, не на адзін год...

Увечары 27 ліпеня вуліцы сталіцы Беларусі, як звычайна, патанулі ў паўзмроку. Каляровыя агеньчыкі святочнага феерверку неяк яшчэ больш падкрэслівалі гушчыню цемры. Недахоп паліва вымусіў эканоміць электраэнергію і ў свята. Праўда, гэта не перашкодзіла гандлю спіртнымі напоямі, якія можна было набыць ледзь не на кожным кроку ў цэнтры горада. Да самага позняга часу тлумна было ля Камароўскага рынку, дзе заўсёды можна купіць з рук гарэлку ці піва. А ў камерцыйных кіёсках — шампанскае, каньяк. Былі б толькі грошы...

Свята мінула. Пачаліся будні. А якімі мы іх зробім — такімі будуць і нашы святы.

**Віталь ТАРАС.**

Фота А. ТАЛОЧКІ. (Белінфарм) і Ул. ПАНАДЫ.

ПАЛІТЛІРЫКА

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## Дык як?

**Спісяжваў нам спіны**
**Варшаўскі бізун,**
**Спасажваў з роднае хаты**
**Маскоўскі бот,**
**Узважваў наш лямант**
**Берлінскі штых.**
**Ды нас ад вятроў затуляў**
**Лясун,**
**Дрыжэў на марозе за нас**
**Чарот.**
**Мы з тых,**
**Хто на зорах калыша**
**Свой род.**

**Плечы горбілі нам**
**Абраз хатулі,**
**Гнеў свой насілі**
**Мы ў рэзьгінах**
**Ды ў бярэмцах.**
**Мы жылі, мы былі**
**Пры палякax, расейцах,**
**Пры немцах.**
**Маўчалі ў кулак.**

**Ды як,**
**Адвірыўшыся ў завірусе,**
**Стаць нам**
**Гаспадарамі свае зямлі,**
**Беларусамі ў Беларусі!**

## Ля помніка Леніну

**Няма чаго губляць бальшавіку.**
**Ільіч як указальнік жабраку**
**Не шлях паказвае да перамогі,**
**Настойліва працягвае руку —**
**Гуманітарнай просіць дапамогі.**

## Крый Бог!

**Адраджаецца з попелу**
**Птушка Фенікс**
**І спявае,**
**Як певень на плоце.**
**Толькі б не адрадзіўся**
**Жалезны Фелікс**
**Ані ў думках,**
**Ні ў бронзе,**
**Ні ў плоці!**
**Толькі б не атрымаць**
**З таго свету тэлекс:**
**«Сустракайце Буду жалезна**
**Фелікс».**

## Адчыніш сам

**Ва ўсіх чарговых чэргах**
**выстаіш**
**І сам адчыніш**
**Сэнсу скрынку:**
**Рай, абяцаны камуністамі,—**
**Падземны пераход да рынку.**

## Трэба мець

**Поп-культура**
**Ці культура поп!**
**Поп зашмат,**
**А не відаць культуры.**
**І стагуе грошай копы коп**
**Рэкецёрская мускулатура.**
**Каб Еўропу**
**Пакарыць з налопу,**
**Трэба мець ці мускулы,**
**Ці попу.**

## Палітычны бутэрброд

**Палітыка —**
**Гэта такі бутэрброд:**
**Масла — інтэлігенцыя,**
**Хлеб — народ.**
**Па закону падступнасці**
**Падае бутэрброд**
**Маслам доле,**
**І амаль ніколі**
**Наадварот!**

## БЕЛАРУСЫ З ЧЫКАГА—У МЕНСКУ

Другі раз Бацькаўшчыну наведаў знакаміты дзеяч беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах Амерыкі сп. Мікола Каленік, старшыня Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады. Гэтая арганізацыя была закладзена ў кастрычніку 1941 года ў горадзе Чыкага, штат Ілінойс. Тут пасля першай сусветнай вайны апынуліся некалькі соцень тысяч нашых суайчыннікаў, у тым ліку і некаторыя сябры першага беларускага ўрада — Я. Варонка, прэм'ер і народны камісар замежных спраў БНР, Я. Чарапук-Змагар, Я. Лобач, М. Аблажэй ды іншыя.

БАНР мае на мэце наладжанне культурнага і рэлігійнага жыцця, яднанне ўсіх беларусаў, што жывуць у штаце. Сябры гэтай арганізацыі ўтрымліваюць чатыры праваслаўныя парафіі, выдаюць грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс «Беларуская думка».

Падчас свайго быцця на Бацькаўшчыне сп. М. Каленік цікавіўся беларускім рэлігійным жыццём, меў сустрэчу з прыхаджанамі Св. Петра-Паўлаўскага сабора г. Менска, прадстаўнікамі Беларускага праваслаўнага брацтва трох Віленскіх мучанікаў на чале з настаяцелем храма а. Георгіем (Латушка).

Царкоўная абшчына і братчыкі дзякуюць сп. Каленіку за грашовыя ахвяраванні на аднаўленне сабора і дзейнасць брацтва.

**Алесь АНЦІПЕНКА,**
**заступнік старшыні брацтва.**

РЭПЛІКА

## ЯК ДУША ДУШУ ПЕРАМАГЛА

Пра дзве душы, што месцяцца ў адной асобе, добра напісаў Максім Гарэцкі ў сваёй аповесці. А ўспомніла я гэты твор, чытаючы ў «Добрым вечары» нататкі Ларысы Коктыш «Ці варта «ратаваць» Беларусь?» (нумар за 22 ліпеня г. г.). Тут паталагічная раздвоенасць душы паўстала ва ўсёй красе. Адна душа аўтаркі нібыта і не супраць беларушчыны, і цалкам згодна, што «становішча трэба выпраўляць», «рабіць усё магчымае, каб беларусы ўспомнілі мову». А другая душа нязгодна: «Які сэнс патрабаваць ад дарослых — вывучайце мову, і ўсё тут! Гэта ж не проста. Нездарма ўрадам на так званы пераходны перыяд адведзена 10 гадоў — відавочна ж, раней нічога не будзе».

Чакайце, дух перавяду. Дык жа ў папярэднім абзацы гаварылася, што беларусам дастаткова мову **ўспомніць**! І раптам — трэба вывучаць нанава. Мабыць, у «ДВ» штатных супрацоўнікаў рэдагаваць не прынята. А вось яшчэ адна супярэчнасць, ужо наконт рускай мовы. «Так, яна не родная», — прызнае аўтар, аднак умомант папраўляе сябе: але і не чужая. Родная. Па аналогіі — не маці, дык родная цётка. Такую пазіцыю «сваяцкі» народ назваў бы «уклончивой», калі не болей.

А то раптам супрацоўніца вячэрняй гарадской газеты возьме і перавядзе гаворку на... музыку. І не так сабе, а каб папікнуць адраджэнцаў: чаму не пратэстуюць супраць засілля чужых рытмаў, супраць чарнухі і парнухі? Мабыць, таму, што ў Л. Коктыш не спыталі, у якім кірунку найперш траціць сілы і намаганні...

Ды ўвогуле гэтыя «прасвятляльнікі» народу», «ратаўнікі», «крыкуны», «ігракі», што «сачыняюць і сачыняюць хітрыкі», «запускаюць дурніцу», каб збіць з панталыку людзей, гэтыя самыя адраджэнцы неверагодна раздражняюць журналістку. На яе погляд, гэта форменныя д'яблы. Я не перабольшваю — слова прамоўлена. Аж мароз па скуры ідзе ў абывацеля! (Ці не хрысцілася Л. Коктыш, «сачыняючы»?) А я думаю сабе: ого, а другая ж душа перамагае! Расце, як цеста ў дзяжы, набракае непрыхільнасцю, высакамер'ем, нейкай нездаровай жудасцю. Чаго? З якой прычыны? Чым так правініліся перад аўтаркай людзі, якім баліць іх адзіная, нераздвоеная беларуская душа і яны сапраўды крыкам крычаць, не бачачы змен да лепшага (за якія нібыта ратуе сама Л. Коктыш)?

Я таксама за стрыманасць у нацыянальным пытанні, за перавагу справы, а не эмоцыі, за рашучасць ва ўчынках, а не ў словах, за погляд на Адраджэнне як на творчы працэс (пра гэта слушна пісаў Масей Сяднёў на нашых старонках). Але не разумею, не магу зразумець такіх людзей, як супрацоўніца «Добрага вечара», якія, здаецца, і побач з намі крочаць, і, разам з тым, пры ўсялякай магчымасці падстаўляюць ножкі сваім «аднадумцам». Ужо ж ці тое, ці другое, панове! Быў час вызначыцца. І перш чым падазраваць некага ў няшчырасці, мо лепш было б, як той казаў, павярнуць зрэнкі ўнутр: а ці няма там банальнай двурушнасці?

Акрамя ўсяго іншага, рэдактар аддзела пісьмаў саслужыла нядобрую службу сваёй газеце. Яе двухсэнсоўную пазіцыю чытачы могуць палічыць пазіцыяй выдання. Чаго мне асабіста не хацелася б...

**ЛІМАВЕЦ.**

---

станцыях. Высалапіўшы язык, я бег да камуністычнага фінішу, а за мною пільна сачылі мае ідэалагічныя трэнеры і натхніцелі, каб я незнарок не збочыў з прызначанай мне дарогі і не скрывіў партыйную лінію.

Пакуль я выбіваўся з усіх сіл, камуністычныя самадзержцы са сваімі родзічамі і халуямі, шалелі ад блазноты ў шыкоўных маёнтках, пабудаваных на сродкі сваіх рабоў. А я, тым часам, натруджваў і ногі, і сэрца на пакутлівых калдобінах чарговых пяцігодак. Адзінаццаць пяцігадовых этапаў гнулі мае плечы. І на ўсіх гэтых этапах мяне суправаджаў прызыўны лозунг: «Дагонім і перагонім перадавыя капіталістычныя краіны!».

Я прывык да ўсяго гэтага так, як прывыкае конь да хамута: цягнуў сваю лямку пакорліва і самаахвярна.

Даганяў і пераганяў перадавыя капіталістычныя краіны, вядома ж, не адзін я, гаротнік, а ўся паднявольная краіна ад краю і да краю. І чым больш мы намагаліся дагнаць заклятых капіталістаў, тым больш адставалі. Ужо не было моцы нашаму народу не толькі бегчы, але і стаяць на нагах. Як гаворыцца, хоць стой, хоць падай. Вялікая дзяржава, «аплот працоўных усяго свету», па камуністычнаму малітоўніку, сама пляснулася на лапаткі. А мы, недавяркі, некалі гневаліся, што прадбачлівыя палітыкі за мяжой называлі нашу краіну калосам на гліняных нагах.

І вось усенародная радасць. На паратунак смяротна хворай краіне падаспела гарбачоўская перабудова. Аказалася, што мы няправільна будавалі наш камуністычны мост па пераходзе ад царскай разрухі да «светлых вяршынь камунізма»! Трэба было будаваць мост упоперак рэчкі, а мы будавалі ўздоўж... Вось такая выйшла прамашка: семдзесят гадоў кату пад хвост! Але такой бяды, мы звыклыя да анекдотаў, галоўнае — перабудова, галоўнае, што наш нязменны рулявы выпусціў, нарэшце, з учэпістых рук штурвал. Перабудова зашумела і загучала. «Працэс пайшоў», падбадзёрыў нас сам незабыўны Міхаіл Сяргеевіч.

Зашумелі, загулі вуліцы і плошчы: што хочаш пішы, што хочаш крычы. Свабода! Воля!

Задрыжэлі ад урапатрыятычных прамоў парламенцкія трыбуны...

Ажылі, як мухі пасля сцюжы, і выйшлі з падполля бандыты, спекулянты, наркаманы ды іншая крымінальная погань.

Хлынуў у родную мову густы касяк чужаземных слоў: плюралізм, кансэнсус, валюнтарызм, канцэпцыя, альтэрнатыва, ратацыя...

Мы ачмурэлі ад рэзкага подыху свабоды, і нібы п'яныя на вяселлі, дружна і нястройна гулі і шумелі.

Дзякуй Богу, нашумеліся, нагаварыліся, намітынгаваліся, настрайкаваліся пад самыя завязкі. А цяпер правім хаўтуры каля разбітых ночваў. Прыйшло цяжкае пахмелле.

Божа, твая воля! Ні з адной краіны свету не здзекавалася так гісторыя, як з адной шостай часткі зямной кулі пад некалі высокай назвай СССР. Краіна парадоксаў і варварскіх эксперыментаў. Як недарэчна яна жыла, так недарэчна і памерла.

(Працяг на стар. 14—15).

Тут не проста прыгожыя словы. Гэтаму верыш, гэта сапраўды так. Бо інакш адкуль тады гэты чысты і светлы настрой любасці, якім наскрозь пранізаны творы пісьменніка, іх празрысты эмацыянальны лад, празрыстасць і чысціня слова і фразы, іх жыццесцвярджальны, аптымістычны настрой. І не толькі тады, калі піша пра малую ўнучку, для якой жыццё нясе штохвілінныя адкрыцці, і тыя адкрыцці даруюць радасць і ёй, і не менш дарослым, але і тады, калі закранае рэчы ў сваім змесце драматычныя, а то і трагічныя.

«Мы ведаем пра ўсю яго страшную праўду, мы думаем, што ён не ведае яе, толькі падазрае. Цяжка сказаць, ці не страшней яму ад гэтага, як нам... Ходзім вось па алейках грознай бальніцы і стараемся гаварыць пра вясёлае. І ён таксама. А глыбока ў душы — вечная мерзлата, і думкі ў галаве, што і ў яго таксама...

А маладая дачка, што таксама ж усё разумее, узяла яго пад руку і міла так, па-жаночы пытаецца:

— Ну, а чаму ты не скажаш, што ты нас любіш, што ты рады нас бачыць?..

Ён усміхнуўся. І мне здаецца, што ўсім нам трохі лягчэй».

Або вось гэта, па-філасофску мудрае, мудрасцю прасветленае:

«Цэлымі днямі сядзець — на прызбе, на ганку ці верандзе — і глядзець, глядзець...

Гэта не толькі старасць, адпачын, — гэта і развітальнае сузіранне. Нацешыцца...»

Жыццятворны, светаносны настрой напаўняе ўсю творчасць пісьменніка. Сёння ў ім прысутнічае адценне роздуму, лёгкага суму. Гэта — як у кастрычніцкія сонечныя дні «бабінага лета». У Брыля сама творчая натура ўзмоцнена глыбока ўсвядомленай, угрунтаванай на багатай глебе сусветнай літаратуры эстэтычнай пазіцыяй. Гэта пазіцыя не тэарэтыка, не філосафа (хоць гэта ні ў якой ступені не выключае глыбіні і арыгінальнасці), а мастака, у якога вывады, меркаванні, разважанні народжаны жывой творчай, шырэй — усёй жыццёвай практыкай. Свет літаратуры, мастацтва, філасофскай думкі ў Брыля ні ў якой ступені не мае самамэтнага ці аўтаномнага значэння; ён арганічная частка духоўнага свету і духоўнага ладу мастака, дзе пачатак творча-мастацкі з'яўляецца вызначальным.

Брылёва «філасофія», Брылёвы лад думак вельмі далёкія ад абстрактнасці, ад самамэтных тэарэтычных практыкаванняў; яны жыццёва-канкрэтныя, народжаны штодзённым «жывым жыццём» бабак Прузын і Агат. Адсюль іх заўсёдная актуальнасць, глыбокая беларускасць, народнасць. Гэтыя ідэі складаюць аснову творчасці, самой мастацкай практыкі. Не будзем забываць, што лад жыцця літаратурны і лад жыцця проста чалавечы, паводзіны творчыя і жыццёвыя ў Брыля глыбока і арганічна звязаны, па сутнасці, адзіныя.

Сёння ў нас нямала, хоць, трэба прызнаць, усё яшчэ мала, гаворыцца пра нацыянальны менталітэт беларусаў. Акрэсліваюцца асобныя рысы, вызначаюцца якасці, асаблівасці. Зразумела, ёсць у гэтым глыбокая жыццёвая неабходнасць. Бо сапраўднае нацыянальнае адраджэнне можа адбыцца толькі на аснове глыбокай нацыянальнай ідэі, ідэі, што каранямі ўваходзіла ў мінулае, ідэі, якая б стала сваёй, унутрана блізкай і неабходнай для мільёнаў беларусаў, ідэі, якая для пачатку хоць бы авалодала свядомасцю мільёнаў. Пакуль што пра ментальнасць як узровень індывідуальнай і грамадскай свядомасці гаварыць не даводзіцца. Нацыянальная адметнасць, нацыянальныя асаблівасці, нацыянальны характар беларуса і народа ва ўсім іх аб'ёме (а не толькі ў якіхсьці сацыяльна-палітычных праявах, не толькі ў экстрэмісцка-выкрывальным змесце ў адносінах да суседзяў і да негатыўных праяў мінулага) — гэта яшчэ амаль не вывучаецца, не асэнсоўваецца. Нешта адмаўляецца без замены больш значным, больш прымальным іншым.

У гэтым сэнсе нацыянальная пазіцыя Янкі Брыля на сённяшні дзень уяўляецца выключна важнай і актуальнай. Для самога ж пісьменніка яна і раней, і заўсёды была такою.

Чытаем мініяцюру пра наведанне Жупранаў:

«Магіла, помнік і, у касцёле, партрэт Багушэвіча. І пачуццё... Другое пачуццё. І здзіўленне, і недаўменне, і пашана да таго, хто блізу сто гадоў таму назад упарта, як парастак паміж плітамі тратуара, пралез паміж дзвюма стыхіямі, рускай і польскай, насуперак усім, уключаючы сваіх найбліжэйшых, пралез і вырас са сваім і зрэбным, і глыбока, па-народнаму, па-хлебнаму свежым беларускім словам. І славы не было, а толькі адчуванне абавязку».

Якой мужнай, самаахвярнай, нават велічнай постаццю прадстае перад намі адзін з першых змагароў за нацыянальнае адраджэнне, адзін з першых свядомых стваральнікаў нашага нацыянальнага менталітэту Францішак Багушэвіч. Якое глыбокае разуменне нацыянальнага подзвігу паэта! І сказана гэта было ў часы самыя застойныя, у часы гвалтоўна-добраахвотнага збліжэння нацый і іх моваў.

Глыбокім, чыстым пачуццём любові да сваёй радзімы пранізана ўся творчасць пісьменніка. Можа, з асаблівай сілай і глыбінёй — раман «Птушкі і гнёзды». Пачуццё патрыятызму ў Брыля не стыхійнае (хаця гэта пачуццё першароднае), а глыбока ўсвядомленае, выпакутаванае на нялёгкіх жыццёвых сцежках асабістай біяграфіі, узбагачанае асабістым творчым вопытам і вопытам сусветнай літаратуры. Брылёвы эсэ і мініяцюры, прысвечаныя творчасці і жыццёваму лёсу беларускіх майстроў слова, асабліва М. Гарэцкага, І. Мележа, прысвечаныя гісторыі і сённяшняму лёсу роднай мовы, уяўляюць сабою выключна цэласную, прадуманую, жыццём адкрышталізаваную нацыянальную праграму. Прычым праграма гэтая падмацавана, пацверджана жыццём і творчасцю майстра.

«Гэта нармальна, што ў мяне яно ёсць, было і будзе —адчуванне роднай зямлі, народа, мовы,— нягледзячы ні на што.

Я быў рады, знайшоўшы гэтую сцежку ў юнацтве, яна мяне вядзе і сёння, даволі часта грэючы, адаграваючы запаветным цяплом».

Яно ідзе разам — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы, гэта адзінае. Прыйшло як бы неўсвядомлена. Пазней асэнсавалася. Выказалася як вызначальны жыццёвы і творчы прынцып.

«Днямі зноў думалася пра крыніцу — родную мову, якой служу і буду служыць як першааснове выхаду ў агульналюдскае. І не таму, што без гэтага мяне не будзе, а таму, што толькі так, толькі кожны ад свайго, ад сыноўняй любасці, ад мудрай пашаны да сваё крыніцы, да свайго карэння па-сапраўднаму выходзяць на ўсіх людзей».



Сяброўская гутарка з Сакратам Яновічам.

Фота У. КРУКА.

Гэтым словам, як і іншым, нельга не верыць. За імі, у іх не толькі творчая практыка слынных майстроў свету, за імі, у іх жыццё і творчасць самога пісьменніка. Гады пацвердзілі іх слушнасць.

Прыгожы і прыгожа пройдзены шлях. Бо ад самага пачатку і аж да сёння пройдзены ён сумленна. Бо шчырае, сумленнае служэнне роднай зямлі, роднаму народу было галоўнай мэтай і сэнсам.

**Серафім АНДРАЮК.**

---

2 жніўня спаўняецца 75 гадоў вядомаму ўкраінскаму паэту, даўняму нашаму сябру, актыўнаму прапагандысту беларускай літаратуры на Украіне, заслужанаму работніку культуры Беларусі Алэксу Юшчанку. Летась у кіеўскім выдавецтве «Молодь» выйшла чарговая паэтычная кніга А. Юшчанкі «Дзверы ў пражытае», у якой поруч з іншымі творамі змешчана і паэма «Беларуская сімфонія».

Віншуем Аляксандра Якаўлевіча з юбілеем. Прапануем ўвазе лімаўскіх чытачоў урывак з гэтай паэмы.

**Алэкса ЮШЧАНКА**

## ЛІСТ БЕЛАРУСУ ЯНКУ БРЫЛЮ

**Урывак з паэмы «Беларуская сімфонія»**

...Даведаліся твае кіеўскія сябры пра трагедыю ў Курапатах пад Мінскам... Не ведаю, ці можна падлічыць, колькі загінула беларусаў у часы сталінскага тэрору...

А ў нас, пад Кіевам, у Быкіўні, у сасновым лесе знойдзены пахаванні ахвяр таго ж тэрору...

**У нас—Быкіўня,**
**У вас—Курапаты...**
**І ў вас, і ў нас**
**Сум лезе ў хаты.**
**Дастаў нас Чарнобыль**
**Палын-гаркатою,**
**І вас, закрануў ён**
**Журбою застою...**
**Мы зноўку падзелім**
**Жалі, трывогі.**
**Мы дыхаем пылам**
**Адной жа дарогі...**

У лесе пад Быкіўнёй знойдзены муштук з надпісам «У. А. Брыль». Гэта ж твайго брата Уладзіміра Антонавіча расстралялі пад Кіевам 29 верасня 1938-га па волі праклятай «тройкі», нацкаванай «правадыром».

**Дабрыдзень, беларусе Янка!**
**На яве сёння, а не ў сне,**
**Блакітныя пралескі зранку**
**У вочы зазірнулі мне.**

**Ды раптам хваляю халоднай**
**Мінулы час на лес дыхнуў,**
**Ён весткай страшнай і журботнай**
**Азмрочыў светлую вясну.**

**У памяці сваёй глыбіннай**
**Час радасць і бяду збярог,**
**Ён, хуткаплынны і няспынны,**
**Пазнаў шмат сцежак і дарог.**

**Ён спрасаваў у нерухомасць**
**Крыві патокі, мора слёз,**
**Хваробы і нязмернасць стомы,**
**Закамянелы вербалоз...**

**І тая вестка засланіла**
**Мне свет увесь. Я трапятаў:**
**Перада мной была магіла**
**Маўклівай сведкай чорных спраў.**

**Як мне сказаць табе пра тое,**
**Што ля дняпроўскіх берагоў**
**Ёсць дарагое і святое—**
**Прах брата роднага твайго!!.**

**Нам доля бед не шкадавала**
**І даравала горкі шлях**
**Праз гаці, прорвы і завалы,**
**Праз недароды на палях.**

**У вас, пад Мінскам,— Курапаты,**
**Быкіўня—ў Кіеве маім.**
**І помста атама-пірата—**
**Чарнобыля атрутны дым.**

**Удосталь усяго, без меры,**
**І мне хапіла, і табе...**
**Як не прабіцца на паперы**
**Маркоце, смутку і журбе!**

**На ўзлеску сінія пралескі**
**Вясновым ранкам зацвілі.**
**А мне здаецца—гэта свечкі**
**Усім ахвярам на зямлі.**

**Я рваць тых кветак не пасмею,**
**Няхай красуе далягляд,**
**У іх—і памяць, і надзея,**
**Твайго Уладзіміра пагляд.**

**Дык прыязджай у госці, Янка,**
**Падзелім напалам бяду,**
**Што сталася асеннім ранкам**
**У трыццаць восьмым годзе тут.**

**Паклонімся мы праху брата**
**І ўсім пакутнікам зямным.**
**...Як гром, грыміць праклянце кату**
**Над Прыдняпроўем залатым.**

З украінскай пераклаў Хведар ЖЫЧКА.

---

**ВІНШУЕМ!**

## ЛЕАНІДУ ЯЎМЕНАВУ—60



22 ліпеня споўнілася 60 гадоў паэту Леаніду Яўменаву. Віншуючы яго з юбілеем, калегі па пяру жадаюць Леаніду Фёдаравічу здароўя, шчасця, творчых поспехаў. «ЛіМ» — таксама.

---

**ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ**

## АД ЗЯМЛІ РОДНАЙ КЛУМБЫ...

Невялікі зборнік «Драўляны рыцар» выдавецтва «Юнацтва» гэтым разам прысвечаны лялечнаму тэатру: артыкул народнага артыста Беларусі Анатоля Ляляўскага, адкрываючы яго, распавядае пра падрабязнасці работы ў лялечным тэатры (сакрэты майстэрства, заўважу да анатацыі, што змешчана ў зборніку, набываюцца так доўга і каштуюць так нятанна, што пераказваць іх у «кіраўніцтве да дзеяння» садкам ды школкам ці ж не марна?), аб парадку працы над спектаклем — ад размеркавання роляў да вырабу лялек, ад першага выхаду на пляцоўку да абсталявання гэтай самай пляцоўкі. Артыкул Ляляўскага — ці не самая каштоўная публікацыя зборніка, бо п'есы, якія прапануюць для пастаноўкі рэдактары ды ўкладальнік, запатрабуюць абавязковага рэжысёрскага ўмяшання — перакампаноўкі сцэн, удакладнення фабулы і да т. п. Больш за тое. Складаецца ўражанне, што, па бальшыні сваёй, гэтыя п'есы прызначаны аўтарамі для чытання, асабліва на фоне п'есы А. Вярцінскага «Дзякуй, вялікі дзякуй» (мабыць, яна патрапіла ў зборнік як узор п'есы, якая вытрымала ўжо добры тузін пастановак і вядомая ў лялечных, дзіцячых ды «дарослых» тэатрах без дадатковае рэкламы). Цяжка ўявіць як на сціплай школьнай сцэне з вуснаў дзіцяці прагучыць наступная аўтарская рэпліка (не рэмарка!): «У вельмі жаласнай» гісторыі ён паказаў псіхалагічныя асаблівасці характару беларускага народа». (Гэта — пра Багдановіча і ягоную «Мушкузелянушку...», — інсцэніроўка Любові Ламекі). А калі па ходзе дзеі з'явіцца персанаж Вулітка, дык любы рэцэнзент прыкусіць сабе язык.

А вось яшчэ рэпліка — персанажа Дажджа: «...Засталіся — адны карані. У Цюльпана яны не надта глыбока прараслі ў зямлю роднай клумбы, і яго купілі, вырвалі з каранямі. У наго яны моцныя, тых купіць нельга. Толькі што эрзацы...» Вох, гэта танна-маралізатарская зямля роднай клумбы! І хоць ад пачатку п'еса Ігара Сідарука «Кветкі пад ліўнем» дужа нагадвае папулярную колісь песеньку ў выкананні Алы Пугачовай пра мільён пунсовых ружаў, набываючы якія закаханы пазбыўся ўсяго свайго майна, Гандляр у п'есе не забываецца сказаць «ганіце здачу!». І вымушае мяне перапытаць: куды?

Пісанне п'ес па матывах беларускіх народных казак уяўляецца драматургам як раскладанне на дыялогі кожнага руху, зруху, думкі персанажаў; асабліва засмучаюць аўтарскія фіналы развязкі і г. д., да ўсяго мера жахаў, страхаў, жорсткасцяў, да каліва ўзважаныя-правераныя народнаю казкаю, і ненатуральна вылучаныя, «папраўленыя» ці асучасненыя аўтарскаю рукою (п'еса Зінаіды Дудзюк «Дудка-самагудка»). Засмучае і мова персанажаў п'ес (выключэнне хіба п'есы Сяргея Кавалёва ды Галіны Каржанеўскай), часам — гэтак званая рытмічная проза маналогаў, будова дыялогаў: надараюцца і дзіўныя рэмаркі проста з «апісаннямі» змены акцёрскіх станаў...

Ж. Л.

Эдуард АКУЛІН



# І хай жыццё няўстрым бяжыць...

●

Палова чацвёртай ночы,—
палова маёй тугі...
Вяртацца душа не хоча
назад, на «свая кругі».

І целу майму пустому
балесна на сподзе сноў.
— Вярніся, душа, дадому,—
прашу і не чую слоў.

Даруй мне, як скрозь бывала,
за безліч маіх грахоў...
Вярніся — я гэтак мала
яшчэ гадаваў сыноў.

Палова чацвёртай ночы,—
палова маёй тугі...
Не хоча душа, не хоча
пакінуць сваіх вышынь.

## Плач

Анёл самотны падаў з неба
над Беларуссю незаўважна...
Адно крыло — бялей ад снегу.
Другое — чорнае, бы сажа.

Упаў—гучалі трубы громна,
і бачыў гэта ледзь не кожны:
адно крыло — у водах Нёмна,
другое — знікла ў плыні Сожа.

О літургіі Херувімы!
Чаму не плачаце—спіцё вы!
Анёл згубіў маю Радзіму,
а без яе — нашто жыццё мне.

## Зайздрасць

Ах, якія могілкі прыгожыя
на радзіме ў Толіка Сыса!
Дзе бярозай стала ледзь не кожная
у Дняпро схаваная душа...

Хораша пры бацькавай магіле
тут пачуць на Радаўніцу гром...
І не страшна, нават ні на хвілю,
прычакаць апошні свой паром.

## Прышласць

Аднойчы, толькі без мяне,
самотны сон Сусвету
па-свойму ў вершах апяе
наступнік мой — паэта.

Русалкі ў руні росны след,
валос світальны вецер...
Няўжо па-свойму апяеш
наступнік мой—паэце!

І хай жыццё няўстрым бяжыць
з Сягоння у Калісьці...
Радку напісанаму — жыць.
Валошцы ў жыце — цвісці!

## Свіслач

*Ля кампазіцыі А. МАЦІЕВІЧА*

Пад пасмай хваль — валос абвіслых
блакіт яснеецца вачыма...
Я закахаўся ў рэчку Свіслач,—
яна была калісь жанчынай.

Я прызначаў ёй час спатканняў
і, як нележала паэту,
дарыў на памяць аб каханні
мастоў шыкоўных бранзалеты.

І верыў я — аднойчы ў зморы
яна з каменнай дыбы ўстане...
І мы пакінем гэты горад
хоць на няісны міг світання.

## Крыўда

*Ахвярую жонцы*

Не папросіш мілоснай свечкі,
не адкажаш хлуснёй на здзек..
Толькі дзве перасохлыя рэчкі
уваскрэснуць з тваіх павек.
Толькі срэбныя дзве маланкі
перакрэсляць мне шлях наперад...
І ў першай — заплача Янка,
а ў другой — засмяецца Верас.

●

Гэта — дарога ў Рай.
Гэта — сцяга да Пекла.
— Божа, параду дай,
выбраць якую лепей.

Першая—кроў і боль.
Крочыць другой — салодка...
— Божа, прашу, дазволь
выбраць між двух — сяродку.

●

Кляновых лістоў клаксон
вятрыска на золку сцісне..
Ты — мой недаснёны сон.
Прачнуся — і шчасце знікне.

Сцякаюць крыжы з вакон
спатою размытых ліній.
Ты — мой недаснёны сон.
Прачнуся — і шчасце згіне.

Зялёных вачэй неон
растайнай слязой бурштыніць.
Ты — мой недаснёны сон.
Баюся прачнуцца — згінеш.

●

Студзень выбеліў пожні
сумам снежнай імшы...
Мы спаткаліся позна —
дзве скалелых душы.

Не паспелі на стольki,
сколькі згублена слёз,
стэарынавым болем
на хрышчэнскі мароз.

На жыццё, на каханне
не здалелі паспець...
Дзве душы, два жаданні
і адзіная смерць.

●

Жанчына парвала з Каханым...
Па вуліцы крочыць адна.
У поглядзе ніцым схаваны
нявыспелы боль і туга.

Жанчына парвала з Каханым.
Ну чым ёй цяпер памагчы!
На займішчы летняга ранку,
на сходзе вясновай начы.

Даверце мне, пекная Панна,
адчай непрытомнай рукі,
і сум ваш растане туманам
на люстры світальнай ракі.

●

О як ты, грэшная душа
мая, імкнулася да Бога!
А Бог сказаў:— Не спакушай
сябе святлом агню чужога...

А я лячу на твой агонь
і без астачы ў ім згараю,
і рай дараваны гублю,
цябе цалуючы у скронь.

# ЛІЁНСКІ ТЫДЗЕНЬ

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

## Ёсць падтрымка

Трапляючы ў іншую краіну, у нязвыклыя абставіны, заўсёды спадзяешся на тое, што сустрэнеш добрых, спагадлівых людзей, якія дапамогуць адаптавацца, падкажуць табе, як лепей ажыццявіць задуманае, запланаванае. Асаблівая надзея на сяброўскую падтрымку калег па прафесіі. І такую падтрымку я і тэлежурналіст Юры Лакавец адчулі ў рэдакцыі ліёнскага аддзялення газеты «Юманітэ»...

У панядзелак зранку наша група вырашыла наведаць адзін з магазінаў і азнаёміцца з яго работаю. У мяне такога жадання не было. Даводзілася наведваць магазіны розных краін. Напрыклад, у Рыме разам з рускім паэтам Уладзімірам Кастровым гутарыў больш за гадзіну з гаспадаром невялікай гандлёвай фірмы, якая прадае тэлевізары і магнітафоны. Гэты чалавек зацікавіў нас як апантаны аматар славянскіх літаратур, жывапісу і музыкі. Цікава расказваў ён і пра сваю фірму. Так што магазінамі здзівіць мяне цяжка. Ды і не люблю я хадзіць па іх, бо з нашымі камандзіровачнымі там няма чаго рабіць.

Адзін з кіраўнікоў асацыяцыі дружбы, які ўбачыў, што я не праяўляю цікавасці да гэтага «аб'екта», папрасіў мяне пачакаць хвілінку, а сам пакіраваў да тэлефона. Вярнуўся ён задаволены. «Дазваніўся да Арлет. Яна прасіла перадаць, каб вы пачакалі яе хвілін дваццаць тут — ля ўваходу. Паедзеце ў рэдакцыю газеты. Там вам будзе цікавей»,— з прыязнаю ўсмешкаю сказаў ён.

Я выйшаў з «карыфура», сеў на лавачку. Курыў і глядзеў на прымагазінную мітусню. Як і ў іншых заходніх краінах, у Францыі ёсць некалькі тыпаў магазінаў. Паслугамі «таці» ў асноўным карыстаюцца бедны люд, наёмныя рабочыя з афрыканскіх краін. Сюды ж імкнуцца трапіць і неабцяжараныя набітымі валютаю кашалькамі савецкія, а цяпер СНДэўскія турысты. Цэны тут значна ніжэйшыя, але і якасць тавараў — адпаведная. Звычайна ў такіх магазінах цесна, а таму часта самы танны тавар выстаўляецца ля іх у вялізных скрынях проста на тратуары. Людзі корпаюцца, выбіраюць нешта, прытым нярэдка робяць гэта неахайна. Заўсёды поруч са скрынямі на брудным асфальце валяюцца ўпакоўкі з калготамі, панчохамі, шкарпэткамі, трусамі і майкамі.

У «карыфураў» — самы масавы наведвальнік, як мы кажам, звычайныя людзі. Ёсць і спецыялізаваныя магазіны для багатых. Сюды за цэлы дзень можа зазірнуць толькі пяць-шэсць пакупнікоў.

Дарэчы, тут людзі не ходзяць, так, як у нас, бязмэтна па магазінах з надзеяю, што недзе нешта «выкінуць». Прадукты сям'я закупляе адразу на тры-чатыры дні. Пад'язджае чалавек на машыне да магазіна, бярэ ручную каляску (яны стаяць тут жа — ля аўтастаянкі), купляе, што яму трэба, перагружае ў багажнік — і дахаты. А фрукты, гародніну можна купіць літаральна праз кожныя сто метраў: і ў магазінах, і з латкоў. Калі ж неабходна набыць нейкую больш-менш дарагую рэч, то да вашых паслуг розныя каталогі, рэкламная прадукцыя, якімі закіданы ўсе паштовыя скрынкі,— выбірай, што хочаш. У крайнім выпадку — ёсць вітрыны. Заходзіць у магазін, каб толькі паглядзець, падзівіцца, такое тут не практыкуецца. Няма і абрыдлых усім нам чэргаў, за выключэннем сезоннага распродажу. Тады людзей бывае шмат...

Арлет заехала на стаянку, выйшла з машыны і махнула мне рукою. «Едзем у рэдакцыю «Юманітэ»,— сказала яна.— Там у мяне ёсць добрая знаёмая Катрын Сімон-Ленак. Думаю, што пагаварыць з ёю табе будзе карысна. Юра і Ігар, відаць, ужо там».

Сапраўды, хлопцы сядзелі ў офісе за сталом і размаўлялі з маладою чарнявую жанчынаю. Яна выйшла з-за стала, каб прывітацца. Простая прычоска, прамыя, відаць, жарсткаватыя валасы, смуглявы твар, жывыя, вясёлыя вочы, добрая, ясная ўсмешка. Арлет пацалавалася з гаспадыняю і адразу папрасіла прабачэння, што не можа прысутнічаць на нашай гутарцы, бо шмат работы. Катрын правяла яе, вярнулася і прадоўжыла пачатую размову:

— Кожнае выданне мае сваю спецыфіку, свой падыход да асвятлення падзей. Але галоўнае — журналісты павінны даваць аб'ектыўную інфармацыю, не хлусіць. Наша газета друкуе матэрыялы на ўсе тэмы: палітыка, эканоміка, навука, адукацыя, медыцына, культура, спорт. Аднак яна — орган Французскай камуністычнай партыі, і таму праводзіць яе ідэі. Дзейнасць нашых камуністаў скіравана на сацыяльную абарону працоўных, на забеспячэнне стабільнага, нармальнага жыццёвага ўзроўню народа. Гэта накладае свой адбітак на матэрыялы газеты.

Яшчэ ў час першай сваёй паездкі ў Францыю я ўбачыў вялікае адрозненне ў падыходзе да розных праблем паміж ФКП і КПСС. Катрын нездарма падкрэсліла самы галоўны накірунак дзейнасці французскіх камуністаў — падтрымаць і абараніць сацыяльна кожнага працоўнага. Кіраўнікі КПСС ставілі перад сабою іншую задачу — выціснуць з рабочых, сялян, інтэлігенцыі ўсё, што можна і няможна, за самую мізэрную аплату, каб раскашаваліся партыйна-дзяржаўная наменклатура, ваенна-прамысловы комплекс, армейская вярхушка. І давялі эканоміку краіны да поўнага развалу.

Французская кампартыя перажывае сёння не самы лепшы свой час. У 1982 годзе на выбарах перамаглі левыя сілы. Тады кампартыя выступіла ў блоку з сацыялістамі. Была эйфарыя, але затым пайшоў спад. Зараз паміж самімі камуністамі ёсць разыходжанне, і нават на ўзроўні ЦК. Многія камуністы расчароўваюцца, выходзяць з партыі. Канешне ж, і крах КПСС паўплываў на аўтарытэт французскіх камуністаў.

Пытаюся ў Катрын: «А ці ведалі вы, што ў СССР ужо даўно партыйна-дзяржауна-гаспадарча-ваенная наменклатура ўсталявала таталітарны рэжым, што ў КПСС не было ніякай дэмакратыі, што радавыя камуністы сталі проста плацельшчыкамі партузносаў, падымальшчыкамі рук на сходах, і не больш таго?»

Яна сумна ўсміхаецца: «Журналісты павінны ведаць больш, чым звычайны чалавек. Можа, і не зусім поўная, але інфармацыя мелася. Скажу шчыра, мне некалькі разоў прапаноўвалі паехаць у камандзіроўку ў Маскву. Але я адмаўлялася, і думаю, што правільна рабіла. Фальш, паказуха, дагматызм, а яшчэ і афганскія падзеі — непрыемна і нецікава ўсе гэта. А як і чым жыве зараз ваша Рэспубліка Беларусь?»

Мы расказваем Катрын пра тое, як праходзілі выбары ў Вярхоўны Савет — недэмакратычна, пад жорсткім дыктатам з боку партыйных органаў, у атмасферы хлусні і паклёпаў на сумленных кандыдатаў, пра непаваротлівасць, ідэалагічную зашоранасць абранага занаменклатуранага парламента, пра станаўленне новых палітычных партый, пра сённяшні побыт людзей. Гаворым пра выключную працавітасць нашага народа, бо, нават страціўшы пасля чарнобыльскай катастрофы адну трэць сваіх самых прыдатных для гаспадарання земляў, Беларусь пастаўляла 16 працэнтаў мяса і мясапрадуктаў, 22 працэнты малака і малочных прадуктаў, 44 працэнты бульбы, 41 працэнт маргарынавай прадукцыі і г. д. у агульнасаюзны фонд, маючы толькі 10 мільёнаў жыхароў. Не хаваем і таго, што многія людзі страцілі нацыянальную самасвядомасць, не размаўляюць на роднай мове ў выніку татальнай русіфікацыі, якая вялася і да рэвалюцыі, але асабліва ўзмоцнена ў апошні час.

Катрын спачувальна ківае галавою і кажа:

— Добра разумею вас. Нам прасцей. Нацыянальная свядомасць французаў выключная. Яна дапамагла нам падняцца на ногі пасля другой сусветнай вайны. Нацыянальная свядомасць і матэрыяльны дабрабыт грамадства цесна звязаны. А як можна без роднай мовы ствараць сваю культуру? Мне шкада вашых людзей, калі яны не разумеюць гэтага. Мне блізкія і вашы трывогі ў сувязі з гіперінфляцыяй, ростам цэн у дзесяткі разоў, з нястачаю самых неабходных прадуктаў і тавараў. Гэта вялікая бяда для людзей.

Працяг. Пачатак у нумары 30.

Канешне, жыццёвы ўзровень французаў непараўнальна вышэйшы. Але не думайце, што ў нас няма праблем. Капіталізм—гэта грамадства дзвюх хуткасцей. Ёсць людзі, якія могуць дазволіць сабе ўсё, а некаторыя — амаль нічога.

У нас таксама растуць цэны і падаткі, праўда, не такімі скачкамі, як у вас. Людзі сярэдняга ўзросту, якія маюць пастаянную работу, не так востра адчуваюць гэта, а моладзі жыць цяжкавата. Асабліва шмат сродкаў забірае вучоба. Мая пляменніца паступіла нядаўна ў скульптурную школу. Шчасце, што яна адзіная ў сям'і, бо, каб падрыхтавацца да навучальнага года, патрэбна тры-чатыры тысячы франкаў: на інструмент, акуляры, кнігі і г. д.

Або такі прыклад. У школах дзяржава наладзіла бясплатныя абеды. Раней вучні на іх і не глядзелі, а зараз многія карыстаюцца гэтай мажлівасцю. Ёсць у мяне звесткі ад медыкаў, што ў нашых дзіцячых садках нормы заніжаныя, дзецям не хапае каларыйнага харчавання.

Я ведаю, што ў Францыі самая страшная бяда ў лёсе чалавека — гэта страта работы. І не толькі ў матэрыяльным плане — дзяржава ўратуе ад галоднай смерці. Чалавек без работы тут адчувае сябе маральна непаўнацэнным. А беспрацоўе расце, яно дасягнула зараз амаль 10-працэнтнага ўзроўню. Таму і прашу Катрын закрануць гэтую праблему. Яна тлумачыць:

— Кожны наш новы ўрад лічыць сваёю галоўнаю задачаю — барацьбу з беспрацоўем. Але ў Францыі мала хто верыць, што такая надзвычай складаная праблема можа вырашыцца да канца. І таму вельмі важна дамагчыся, каб дзяржава забяспечвала пэўны жыццёвы дабрабыт беспрацоўных.

Гэта робіцца. Напрыклад, калі ты страціў работу па віне прадпрыемства, то атрымліваеш дапамогу на працягу года ў памеры 90 працэнтаў ад сярэдняй зарплаты. А потым яна памяншаецца і даходзіць да 40 працэнтаў. У Францыі жанчыны ідуць на пенсію ва ўзросце 60, а мужчыны — 65 гадоў. Самая крытычная мяжа — 50—55 гадоў. Калі ты згубіў работу ў такім узросце, то цябе чакае бязрадасны пошук яе. Прадпрыемствы, фірмы не хочуць прымаць пажылых людзей.

Катрын падрабязна расказвае пра многія формы сацыяльнай абароны беспрацоўных, пра тое, як удзельнічаюць у гэтай рабоце палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі.

Мне, напрыклад, цікава было даведацца, што дапамогу па беспрацоўі атрымліваюць нават выпускнікі школ, якія нідзе ніколі не працавалі і не хочуць уладкоўвацца на работу. Памер яе — 2000 франкаў. Але тут усё залежыць ад спецыяльнай камісіі, якая прымае рашэнне персанальна па кожным чалавеку: каму — даць, а каму — не.

Ёсць шмат маладых людзей, якія не хочуць быць на пастаяннай рабоце, абмяжоўваюцца часовымі заробкамі. За зіму збяруць нейкую суму, а затым улетку сваімі кампаніямі падарожнічаюць па Еўропе, адпачываюць.

У канцы размовы Катрын цікавіцца, дзе б мы хацелі пабыць у Ліёне, з кім сустрэцца, абяцае сваю дапамогу. Я прашу, калі ёсць такая магчымасць, звесці мяне з ліёнскімі літаратарамі, іншымі прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі. Юра кажа, што хацеў бы сустрэцца з мясцовымі тэлежурналістамі. А потым жартуе: «Мы б не адмовіліся з'ездзіць на дзянёк і ў Парыж». Катрын смяецца: «Пазнаю журналісцкую хватку. Ліёна яму мала, падавай Парыж». А пасля ўжо сур'ёзна гаворыць, што з вялікім задавальненнем арганізавала б такую паездку, ды грошай няма. Іхняя рэдакцыя не такая багатая. А білет на звышхуткасны экспрэс «Ліён — Парыж» у два канцы (адлегласць паміж гарадамі — 500 кіламетраў) каштуе тысячу франкаў. «Так што давядзецца вам, хлопчыкі, быць са мною ў Ліёне, а не заглядацца на парыжскіх красунь»,— жартуе яна. І дадае: «А я вам адну сустрэчу магу зараз арганізаваць. Хочаце пабыць на кабельным тэлебачанні ў маёй сяброўкі Даніэль Біакітле? Згода? Тады званю ёй».

Пасля кароткай перамовы па тэлефоне Катрын кажа:

— Завесці вас не змагу. Буду прымаць інфармацыю. Даберацеся самі. Вось адрас. Тут тры прыпынкі на метро. А як скончыце там гаворку — зноў да мяне. Хачу пачаставаць вас вячэраю.

Мы задаволены такой прапановаю, але стаім, пераступаючы з нагі на нагу, бо, як ні сорамна нам прызнавацца, у кішэнях няма ніводнага франка. Як жа купіць білеты на метро? Давялося тлумачыць, што прыехалі па безвалютным абмене, а дома, як ні прасілі, грошы нам не абмянялі. Катрын ускліквае: «О, Божа! Я ж забылася, адкуль вы прыехалі. Прабачце, даражэнькія! Вось вам білеты». Яна вымае з сумачкі жменю білетаў і падае Ігару: «Думаю, што на сёння хопіць. Глядзіце ж — не зблудзіце, вяртайцеся хутчэй».

А мы і сапраўды доўга не маглі адшукаць вулачку, на якой размешчана кабельнае тэлебачанне. Выйшлі з метро, а куды ісці далей — не ведаем. Цікава было назіраць за рэакцыяй прахожых, да якіх мы звярталіся. Пажылыя глядзелі насцярожана, адказвалі: «Не ведаем» альбо, наогул, моўчкі прыспешвалі крок. Маладзейшыя былі больш камунікабельныя, але і яны не дапамаглі.

Французы, я ў гэтым пераканаўся за дзве свае паездкі, не любяць ніякіх лішніх клопатаў, пазбягаюць любога, самага бяскрыўднага замаху на свой спакой. Яны выключна абыякавыя да ўсяго, што не тычыцца сям'і, іх асабіста. Ім, напрыклад, нецікава, што робіцца на суседняй вуліцы.

А дапамагла нам работніца пошты, якая на машыне развозіла газеты. Яна выслухала нас, дастала з сумкі карту Ліёна, расклала яе на капоце. Аказалася, што гэтая вулачка побач — трэба прайсці метраў трыста.

Кабельнае тэлебачанне размешчана на першым паверсе вялікага дома. Займае некалькі пакойчыкаў. Тут цеснавата. Кабінет дырэктара застаўлены шафамі з касетамі, апаратураю. Даніэль расказвае, што іхні калектыў невялікі — пастаянна занята 20—25 чалавек. Толькі на працягу адной гадзіны ў дзень вяшчаюць свае перадачы, а астатняе — пакупное. Сярод сваіх перадач асноўнае — навіны, на якія працуюць чатыры журналісты і два аператары. А на культуру, спорт прыпадае толькі па 20—25 хвілін у тыдзень. Перадачы, прысвечаныя турызму, адпачынку, укладваюцца ў адну гадзіну ў месяц. «Мы яшчэ толькі становімся на ногі,— гаворыць яна.— Далей аб'ём сваіх перадач будзе павялічвацца. Калектыў малады, энергічны, працаваць умее, тэхніку набылі якасную — ёсць усе магчымасці для добрай работы».

Юра прапануе Даніэль паглядзець відэакасету з ягоным фільмам па гісторыі і архітэктуры Беларусі. Пасля прагляду яна ўпэўнена кажа: «Такую прадукцыю можам пускаць на нашым экране. Нам гэта цікава». Юра дамаўляецца аб супрацоўніцтве, пытае, што яшчэ зацікавіла б ліёнскіх гледачоў. «Найлепш успрымаюцца перадачы невялікага аб'ёму, звязаныя з прыродай, гісторыяй, архітэктурай, этнаграфіяй,— гаворыць Даніэль.— Можам абменьвацца такімі відэасюжэтамі з вашым тэлебачаннем».

Вярнуліся мы ў офіс «Юманітэ» гадзіны праз дзве. Катрын адразу павяла да стала. Аказалася, што гэты панядзелак — дзень святой Катрын, што яго святкуюць усе незамужнія дзяўчаты, якія дасягнулі 25 гадоў. Падымаем чаркі за здароўе нашай слаўнай апякункі.

А пасля трапляем яшчэ на адно застолле. Мая гаспадыня Арлет, акрамя нас, запрасіла на вячэру Пятра Андрэевіча Валковіча, Тэрэзу і Эдуарда Хаонд. У цэнтры ўвагі на працягу ўсяго вечара быле яе дачка Арыэль, якая таксама падпадала пад дзень святой Катрын.

Запомнілася адна экзатычная страва, традыцыйная ў французскіх пастухоў. У электрапеч, якая стаяла пасярэдзіне стала, мы дружнай грамадою з усіх бакоў ставілі невялікія патэльні з нацёртым на тарку сырам, а потым мачалі ў расплаўленую масу бульбу ў мундзірах, кавалачкі шынкі, вяндліны. Смаката!

# Дзве гадзіны з Полем Гравіёнам

Заўсёды, калі трапляю ў замежную краіну, хоць і маю канкрэтную задачу, не звязаную з культураю, я стараюся любымі спосабамі выйсці на прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, каб сустрэцца, пагаварыць, атрымаць інфармацыю пра духоўнае жыццё, як кажуць, з першых вуснаў. Зрабіць гэта часта бывае няпроста па розных прычынах. Але ў Ліёне мне пашанцавала.

Уважлівая, змабілізаваная на дапамогу Катрын, якая, як я пераканаўся, ніколі нічога не забывае, раніцою сказала: «Твая просьба, Серж, выканана. Сёння ўвечары ў нашым офісе ты сустрэнешся з паэтам Лолем Гравіёнам. Гэта надзвычай цікавы творца і шчыры, сардэчны і сціплы чалавек. Ну як, ты задаволены?»

Яшчэ б не быць задаволеным! Толькі ўчора я, не спадзеючыся на ўдачу, папрасіў яе звесці мяне з мясцовымі літаратарамі, а ўжо сёння ёсць вынік.

Характарыстыка Катрын была дакладная. Сапраўды, гэты хударлявы, з тонкімі рысамі твару, з цёмнымі ўважлівымі вачыма чалавек спадабаўся мне адразу той глыбіннай інтэлігентнасцю, той далікатнасцю, якія не так часта сустракаюцца ў нашыя дні.

Гаспадыня зрабіла ўсё, каб размова была неафіцыйная, даверлівая і шчырая. І вось мы сядзім ва ўтульных крэслах за невялікім столікам. Ліецца мяккае святло. Ніхто і нішто не перашкаджае нам. Адно толькі зрэдчас завурчыць Фукер — цёмна-шэрая аўчарка, якая ляжыць побач. Яна паклала сваю вялікую прыгожую галаву на дужыя тоўстыя лапы і то дрэмле, то, абачнуўшыся, нязлосна падае голас.

Спачатку кожны ўспамінае сваіх любімых пісьменнікаў: ён — рускіх, бо беларускіх яму не даводзілася чытаць, ды і, наогул, пра нашу рэспубліку Поль мае даволі цьмянае ўяўленне, я — французскіх. Шкадую, што няма кантактаў паміж літаратарамі Францыі і Беларусі, што мы слаба ведаем сучасны стан іхняй літаратуры. Поль слухае, потым кажа:

— Так, я згодзен з тым, што і ў вас, і ў нас звычайна чытаюць класіку. Яна пакрыху перакладаецца, выдаецца. Да сучаснай літаратуры доступ абмежаваны. Тым не менш мне здаецца, што мастацкі, эстэтычны і інтэлектуальны ўзровень і сённяшняй французскай літаратуры даволі высокі. Але, як вы заўважылі, і тое праўда, што, маючы такія выдатныя традыцыі і вялікую папулярнасць у свеце, зараз яна болей закрытая для іншаземцаў, варыцца ва ўласным соку. Таму, на маю думку, далейшае развіццё нашай літаратуры павінна грунтавацца на трох крытэрыях: адкрытасць да іншых літаратур і культур, стварэнне новых перспектыўных творчых накірункаў, абарона і падтрымка таго, чым займаецца кожны здольны пісьменнік.

Французы яшчэ толькі пачынаюць адкрываць Рэспубліку Беларусь, якая стала на шлях незалежнасці, новага развіцця. Мы хочам ведаць і вашу культуру, літаратуру. Відаць, першае, што трэба зрабіць,—гэта скарыстаць тое, што Ліён і Мінск — пародненыя гарады. У кожную дэлегацыю, якімі абменьваюцца бакі, неабходна ўключаць прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі, што паспрыяе наладжванню індывідуальных творчых кантактаў.

Мяне цікавіць многае: у якой атмасферы даводзіцца працаваць французскім літаратарам, як дапамагае ім дзяржава, якія выдавецкія магчымасці, ці шырокае кола чытачоў? Перачакаўшы лавіну пытанняў, што абрынулася на яго, Поль засяроджваецца, а пасля гаворыць:

— Не ведаю, як у вас, а ў Францыі пісьменнікам працуецца і жывецца цяжкавата. І асабліва на перыферыі. Усе буйныя выдавецтвы, рэдакцыі прэстыжных літаратурна-мастацкіх часопісаў, газет знаходзяцца ў Парыжы. Там віруе інтэнсіўнае творчае жыццё. І калі пісьменнік адчувае ў сабе сілы, спадзяецца дасягнуць значных поспехаў на літаратурнай ніве, то ён вымушаны, урэшце, ехаць у Парыж. Тут, на месцы, спраўдзіць свае мары амаль немагчыма.

Раскажу, напрыклад, пра лёс Патрыка Драле. Да апошняга часу ён жыў у Ліёне, працаваў выкладчыкам, спрабаваў сябе ў паэзіі, гістарычнай прозе. Аднойчы рызыкнуў паслаць твор пад назвай «Гарымар» у Парыж. Гэта была ягоная першая аб'ёмная літаратурная праца, і ён сам дагэтуль не можа зразумець, чаму яе надрукавалі. Але пачын адбыўся, Патрыка заўважылі. У выдавецтвах прынялі яшчэ некалькі рукапісаў. І ён пераехаў у Парыж: чытае там зноў лекцыі, бо з аднае літаратуры не пражывеш, але ўсё ж атрымаў пэўную магчымасць творча расці. Адразу хачу сказаць, што такое ў нас — не правіла, а выключэнне.

Надзвычай цяжка прабіцца ў вялікую літаратуру. Рукапіс маладога аўтара ацэньваюць члены выдавецкага савета. Звычайна тры-чатыры чалавекі. І неабходна, каб усе яны выказаліся станоўча. А ў кожнага члена савета свой густ, свой погляд на літаратуру. Шанцуе нямногім аўтарам. Але такія шчаслівчыкі ёсць, і іх прыклад надае смеласці новым маладым літаратарам.

Гаворку перапыняе Катрын, якая прынесла каву. Поль дзякуе гаспадыні, бярэ кубак, смакуе, а затым працягвае:

(Працяг на стар. 10—11).



На прыёме ў Ліёнскай мэрыі

ДРУК

## «МАСТАЦТВА», №7

Чалавек у супярэчлівым свеце, прагрэс і духоўнасць — гэтыя і іншыя праблемы закранаюцца ў матэрыяле Г. Адамовіч «Ядзерная зброя першабытнага свету, або Чаму ў нас акамянеласці духоўнай страваю завуць?». Развагі Я. Росцікава «Робім гісторыю...» —пра так званыя гістарычныя дакументальныя стужкі; штрыхі да партрэта кінарэжысёра А. Карпава «Доўгія вёрсты кіно» напісаны Я. Крупенем; знаёмства з эратычным відэа ў сшытку «Экран».

«Музыка» — гэта роздум Т. Мушынскай пра оперу Я. Глебава «Майстар і Маргарыта» («З Булгакавым і без яго, або Спроба рэцэнзіі ў выглядзе Аптыміста і Песіміста»), працяг запісаў В. Ліцвінкі «Шырма расказвае пра сябе...», артыкул В. Брылон «Наталля Гайда застаецца і перамагае», нататка Н. Бунцэвіч «Гісторыя стварэння» яшчэ не завершана» — чарговая пастаноўка «Джуліі» У. Кандрусевіча ў тэатры музкамедыі.

Гутарка А. Ганчарова з В. Маслюком «Уцёкі да сябе самога» і малавядомыя старонкі з гісторыі БДТ-2 («Пераможцаў не было...») У. Мальцава прадстаўляюць «Тэатр».

У раздзеле «Гісторыя мастацтва» — артыкул Ю. Якімовіча «Нерэальная рэальнасць».

Змястоўны сшытак «Выяўленчае мастацтва» —новыя штрыхі да жыцця і творчасці малавядомага мастака А. Герасімовіча («На роднай зямельцы ўсе мы не госці...»), развагі Г. Фатыхавай пра творчасць Г. Бржазоўскага «Рэалізм і шчырасць», думкі Н. Шаранговіч пасля знаёмства з адной з выставак («Пасляслоўе, або Пахвала класічнай дасканаласці»), рэпартаж А. Чарняўскай «Гаворым без пасрэднікаў» з Дзён беларускай культуры ў Вільні.

Сярод матэрыялаў нумара— пачатак артыкула М. Санбюэ «Сучасная дацкая фатаграфія: спроба ідэнтыфікацыі» (пераклад з англійскай У. Парфянка), артыкул І. Ганецкай і Л. Калядзінскага «Маёліка Фаэнцы з берагоў Эрыдана» («Гісторыя мастацтва»).

НАБАЛЕЛАЕ

# Будзем памяркоўнымі і цывілізаванымі

**З дамовы, заключанай дырэкцыяй Беларускай дзяржаўнай філармоніі ды Вішнеўскай рыма-каталіцкай рэлігійнай абшчынай 11.04.91 г.: «БДФ прадастаўляе Камерную залу філармоніі (касцёл св. Роха) часова на тэрмін да 1 ліпеня 1991 г. (да часу рэгістрацыі Мінскай абшчыны каталікоў-беларусаў) для правядзення штодзённых набажэнстваў з 8.30 да 10.00 раніцы; могуць адбывацца набажэнствы і ў іншы час па дамоўленасці абодвух бакоў. Усе набажэнствы праводзяцца выключна на беларускай мове. За правядзенне набажэнстваў Вішнеўская рыма-каталіцкая рэлігійная абшчына аплачвае па дамоўленасці 25 руб. за кожны раз праведзенага набажэнства. Кошт прыбірання памяшкання Камернай залы бярэ на сябе рыма-каталіцкая рэлігійная абшчына па дамоўленасці. БДФ прадастаўляе памяшканне для захавання і выкарыстання неабходных у набажэнстве рытуальных рэчаў. Пры выкарыстанні аргана філармоніі беларуская рыма-каталіцкая абшчына заключае дадатковае пагадненне з філармоніяй...»**

**Пазнаёміўшы карэспандэнта «ЛіМа» з працытаваным дакументам, дырэктар БДФ У. Ратабыльскі выказаў трывогу за далейшы лёс Камернай залы ў касцёле св. Роха і падзяліўся сваімі меркаваннямі наконт вырашэння праблемы. Вось што сказаў Уладзімір РАТАБЫЛЬСКІ:**

— Заручыўшыся падтрымкай аўтарытэтных дзеячаў нацыянальнай культуры, беларускія католікі дамагаюцца зараз перадачы цалкам у іхнюю ўласнасць будынка, у якім працуе зала камернай музыкі, — адрэстаўраванага дзяржавай касцёла св. Роха. Я звяртаюся да цвярозага розуму сваіх землякоў — інтэлігентаў, палітыкаў, вернікаў: давайце памяркоўна разгледзім гэтую сітуацыю, не будзем спяшацца, паспрыяем захаванню «статус-кво», сёння, каб заўтра не расплачвацца шматкроць за страчанае.

Не буду гаварыць доўга пра тое, што культура, тым больш культура музычная, і рэлігія не могуць быць антаганістамі. У іх агульная духоўная прырода. І тое, што адно з адным гарманічна суіснуе, я неаднойчы назіраў, калі бываў у краінах Еўропы ці ў Канадзе. Там няма палацаў культуры, і канцэрты ладзяцца ў храмах: да лавак (якія ёсць, вядома, і ў нашых касцёлах) дастаўляюцца крэслы, з дапамогай подыумаў хутка робіцца сцэнічная пляцоўка, падводзіцца спецыяльнае асвятленне — і можна выступаць. Прычым гучыць у храмах не толькі чыста рэлігійная музыка і граюць не толькі акадэмічныя выканаўцы. Яркі прыклад — гастролі нашага ансамбля «Свята» ў Канадзе. Адзін з каталіцкіх храмаў жыў увогуле дзіўным, паводле нашых уяўленняў, жыццём: пры вялікай сучаснай, накшталт канферэнц-залы, аўдыторыі, дзе ішло набажэнства пад японскі сінтэзатар, дзейнічала сталоўка й нават кухня; для дзяцей, якія пакуль не звярнуліся да Бога, была адчынена зала, накшталт нашых школьных спартыўных, з мноствам атракцыёнаў і гульняў. А тут яшчэ пасля набажэнства ўрэзаў гармонік «Свята»!

Канечне, «там» дзяржава храмы не зачыняла і не руйнавала. У нас сітуацыя зусім іншая — што й казаць. І храмаў амаль не засталося, і на канцэртныя залы не разжыліся. Але калі ўжо вярнулі да жыцця занядбаны касцёл, каб даць прытулак музыцы, трэба з гэтым на нейкі час і пагадзіцца: бо не выкідаць жа беспрытульнае мастацтва «ў нікуды»— Бог не заклікаў выганяць беспрытульных, якія прыбіліся да храма.

Далёкія ад мастацтва людзі могуць мне запярэчыць: маўляў, філармонія ўжо мае вялікую канцэртную залу, навошта яшчэ і камерная? А чалавек дасведчаны ніколі не задасць такое недарэчнае пытанне, бо разумее, што вялікая зала не толькі не спрыяе развіццю вельмі далікатнай культуры камернага музіцыравання, але і губіць існаванне камерных жанраў. Камерная музыка вымагае даверальнай атмасферы, збірае не «масавую аўдыторыю», а цеснае кола аматараў ды спецыялістаў. Тыя канцэрты, што цяпер у Камернай зале праходзяць з аншлагам, на вялікай сцэне рабілі ўражанне грання перад напаўпустым партэрам, і ад іх правядзення мы ў рэшце рэшт адмаўляліся. Камерная зала — гэта і ўдзячная пляцоўка для маладых выканаўцаў і кампазітараў, чые імёны толькі-толькі з'яўляюцца на афішах. А фестывалі? Успомніце «Адраджэнне беларускай капэлы», як людна, як святочна было ў тыя дні на Залатой Горцы! І хай прабачаць мне вернікі такое параўнанне, але на сённяшні дзень «прыход» Камернай залы значна перавышае колькасць тых, хто рэгулярна наведваецца на рэлігійную службу.

Я шчыра зычу, каб абшчына беларускіх католікаў мацавалася, расла колькасна, папаўнялася моладдзю. І яшчэ я перакананы ў тым, што дзяржава павінна аднавіць гістарычную справядлівасць і з часам вярнуць храмы тым, на чые сродкі яны будаваліся. Вядома, у нашым выпадку можна спрачацца, бо касцёл святога Роха будаваўся не на сродкі беларускіх католікаў Мінска — гэтая абшчына зусім маладая. І рэстаўрацыя вялася не за кошт царквы і нават не па яе ініцыятыве. Гэта ж і маладыя яшчэ людзі памятаюць, які меў выгляд занядбаны касцёл: купалоў даўно не было, сцены разбураліся, параслі кустоўем, пруткамі бярозак, фаліянты з «ленінкі», што захоўваліся тут, раскрадалі й прадавалі бібліяфілам хлапчукі... Хто ведае, можа, ужо і спарахнеў бы старадаўні будынак, калі б не ідэя залы камернай музыкі.

Але калі звярнуліся да нас беларускія католікі, мы пайшлі ім насустрач, адчынілі дзверы храма, бо і самі за тое, каб адраджалася вера, каб мова наша гучала ў святынях, каб квітнела духоўнасць у самым шырокім сэнсе. Таму і дамову падпісалі і нават не спаганялі са сваіх партнёраў за тое, што рэлігійная абшчына не выконвала пагадненне ў частцы аплаты, бо, відавочна, у пакуль яшчэ кволай супольнасці беларускіх католікаў цяжкасці з фінансамі. Дык ці не больш разумным будзе пакінуць усё, як склалася, да лепшых часоў? Бо калі дапусціць, што вернікі стануць гаспадарамі касцёла, трэба звыкнуцца з думкай, што ён вельмі хутка прыйдзе ў заняпад: утрыманне будынка сёння вельмі дорага каштуе, а дзяржава ў асобе філармоніі займацца гэтым тады ўжо не будзе.

Але што станецца з культурай, з традыцыямі Камернай залы? Як ні дзіўна, дазнаўшыся пра ўскладненне сітуацыі вакол касцёла св. Роха, настаяцель Мінскага Чырвонага касцёла а. Уладзіслаў звярнуўся да нас з прапановай выкарыстоўваць гэты храм як канцэртную залу, і як мага актыўней, асабліва калі тут будзе ўстаноўлены арган. Прапанову мы з удзячнасцю прымаем. Але ж гэта не выйсце, бо нам трэба паклапаціцца і пра свой арган. Гэты інструмент — дзяржаўная каштоўнасць, акустычна ён прывязаны менавіта да той кропкі, на якой устаноўлены, перацягнуць арган на хоры, як патрабуюць вернікі, — гэта значыць забіць ягоны «голас». А перавезці ў абы-якое памяшканне— значыць проста згубіць. Для залы камернай музыкі патрэбна

# ЛІЁНСКІ ТЫДЗЕНЬ

(Пачатак на стар. 8—9).

— У Ліёне няшмат літаратараў. Ды і, у асноўным, усе мы — творцы, як той казаў, сярэдняй рукі. Буйных літаратурных талентаў няма. Відаць, гэта вынік той жа цэнтраімклівасці, адсутнасці спрыяльных умоў. І ўсё ж пэўную творчую атмасферу агульнымі намаганнямі падтрымліваем і мы. У 1968 годзе ў Ліёне была створана літаратурная асацыяцыя. Ёсць чатыры выдавецтвы, адно з якіх працуе пры універсітэце, ды яны абслугоўваюць не толькі пісьменнікаў. Тут друкуюцца кнігі па гісторыі, навуцы, культуры. Што тычыцца чыстай мастацкай літаратуры, то вельмі няпроста выдаць аб'ёмны твор: раман, аповесць, паэму. Нейкія раздзелы, фрагменты можна надрукаваць у часопісах, але цалкам — практычна немагчыма. Даводзіцца шукаць саматужна іншае выйсце.

Адна з самых цікавейшых і актыўнейшых пісьменніцкіх груп Ліёнскага рэгіёна працуе ў горадзе Венісьё. Душа яе — Цьеры Рэнард, якому няма яшчэ трыццаці гадоў. Мясцовы муніцыпалітэт падтрымаў маладых літаратараў, выдзеліў ім памяшканне. Тут сустракаюцца прадстаўнікі ўсіх відаў мастацтва, адбываюцца дыскусіі, абмеркаванні новых твораў. Цьеры стварыў часопіс «Зара», а пры ім — невялікае выдавецтва. (Дарэчы, я змог потым сустрэцца з дырэктарам публікацый часопіса «Зара» Сільвіян Круэзт. Яна расказала пра калектыў рэдакцыі, яго планы, падарыла апошні нумар часопіса і два новыя зборнікі паэзіі, якія выпусціла іхняе выдавецтва. Хачу сказаць, што гэтую друкаваную прадукцыю прыемна ўзяць у рукі. Папера, мастацкае афармленне, узровень паліграфіі такія, што можа пазайздросціць любое выдавецтва нашай рэспублікі. Мы дамовіліся з Сільвіян аб творчым супрацоўніцтве «Полымя» і «Зары», аб абмене публікацыямі на безвалютнай аснове).

Друкуюцца ў выдавецтве Цьеры Рэнарда не толькі французскія літаратары, але і нашы суседзі. Нядаўна выпусцілі кнігі двух нямецкіх пісьменнікаў, прычым на французскай і нямецкай мовах. Наогул, з літаратарамі Германіі маецца трывалая дынамічная сувязь. Асабліва з горадам Штутгартам, дзе працуе Дом пісьменнікаў. Наладжваюцца кантакты і з Барселонай, ды пакуль няма сродкаў, каб выпускаць кнігі іспанскіх калегаў.

Канешне ж, усё залежыць ад канкрэтных людзей, ад іх прадпрымальнасці, жадання нешта зрабіць карыснае для культуры, літаратуры. Калі ж ініцыятыва гэтых энтузіястаў не знаходзіць водгуку, падтрымкі, то і ў іх апускаюцца рукі.

Прадстаўнікі органаў улады, палітыкі маглі б падтрымаць нас. На развіццё культуры дзяржава выдзяляе значныя сродкі. (Напрыклад, сёлета міністр культуры Ж. Ланг ганарыцца тым, што «выбіў» самы вялікі бюджэт за ўсю «гісторыю культуры». — С. З.). Але многія дзяржаўныя дзеячы самі не чытаюць кнігі, абмяжоўваюцца перыёдыкай. Якая ж можа быць гаворка пра іхнюю дапамогу ў развіцці мастацкай літаратуры!

Слухаў я Поля і думаў, як гэта ўсё падобна на нашу сітуацыю. З якімі цяжкасцямі даводзіцца сёння нам ратаваць беларускую мастацкую кнігу, літаратурна-мастацкія часопісы, штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», якія на працягу пяцідзесяці, шасцідзесяці, а то і сямідзесяці гадоў былі самымі важнымі і дзейснымі асяродкамі духоўнага жыцця на Беларусі, абаранялі і развівалі родную мову, літаратуру і культуру, стрымлівалі татальны націск русіфікацыі, рухалі наперад, хай сабе і з пераменным поспехам, справу нацыянальнага адраджэння! Заслугі літаратурных выданняў, пісьменнікаў у адстойванні нацыянальнай годнасці беларусаў, права «людзьмі звацца» забыты менавіта ў гэтыя, хоць і радасныя, але надзвычай складаныя дні станаўлення дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь, якія яны з такімі пакутамі і высілкамі набліжалі, за якія настойліва змагаліся. Ім даводзіцца сёння працаваць у больш цяжкіх умовах, чымся пры сталінскім і брэжнеўскім рэжымах. Тады душыла ідэалагічная цэнзура, наглядчыкі без пагонаў і ў пагонах, а зараз зацягваецца эканамічная пецелька.

Затое зноў на кані тыя, хто з'еў зубы на знішчэнні ўсяго беларускага, а таксама ўзгадаваныя імі маладыя, з не менш учэпістаю хваткаю ваўкарэзы-сталіністы, самыя розныя русіфікатары ў нібыта дэмакратычнай апратцы. Каб зразумець гэта, не трэба нейкага грунтоўнага аналізу, варта паглядзець толькі, чым запоўнена інфармацыйная прастора Беларусі. Дзе, у якой яшчэ краіне можа быць такое, каб тэлебачанне, газеты, якія знаходзяцца на ўтрыманні дзяржавы, вялі вайну супраць яе незалежнасці, суверэнітэту, супраць дзяржаўнай мовы, нацыянальнай культуры!? Ва ўсякім выпадку ў Францыі, у іншых



Арлет КАВІЕН.

**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ**

# «ДЛЯ ЗАРОБКУ НІКОЛІ НЕ ПІСАЎ...»

**На пытанні Леаніда ПРАНЧАКА адказвае Кастусь АКУЛА**



**Раскажыце пра свой творчы лёс, назавіце вашы асноўныя творы.**

У «Голасе вёскі» за 19-га сакавіка 1943 г. змясцілі мой першы верш. Пра далейшае гл. мае кнігі «Усякая ўсячына» (бачына 101), «І быў пачатак».

Цяга да вершаскладання з'явілася змалку, гэтаксама й любоў да моваў. А на працягу амаль трох гадоў вайны й пасля яе ў кішэні жаўнерскага мундзіра таўсцеў «дзённік», на аснове якога вырасла пасля дакументальная аповесць «Змагарныя дарогі», выданая ў Мюнхене ў 1962 годзе. Некаторыя схільныя называць яе мемуарамі.

Гэна аповесць сцягнула на мяне агонь з боку партыйных пігмеяў і розных цівуноў акупацыйнага маскоўска-бальшавіцкага апарату ў Беларусі. Нафашысцілі мне ўволю. Згодна іх, беларусы падчас вайны аддана служылі «бацьку народаў» і «непамыльнай роднай партыі». Гэта ж Акула, — на жаль, адзін з ліку беларускіх пісьменнікаў на выгнанні,— у сваіх сціплых магчымасцях намагаўся паказаць зусім іншы бок як пад рэжымам гітлераўскіх акупантаў, гэтак і сам шлях некаторых беларускіх збройных адзінак, што пайшлі на Захад, каб вырвацца ад маскоўскага памяла «бацькі народаў» і трапіць у заходнія вольныя дэмакратычныя краіны.

Раман «Гараватка» — тры кнігі. «Дзярлівая птушка» — час польскае акупацыі, «Закрываўленае сонца» — маскоўска-бальшавіцкая, «Беларусы, вас чакае зямля!» — нямецкая акупацыя й вайна. Кніга «Усякая ўсячына» адпавядае сваёй назве — гэта і сатыра, і п'еса, і вершы, і публіцыстыка, а ў аддзеле «Россыпы» — аўтабіяграфічныя згадкі.

Па-англійску выданая «Пагоняй» аповесць «Тумороў іс естэрдэй» была спробай, ці пад сілу мне мастацкая літаратура ў англійскай мове.

Прапанавалі мне камерцыйныя літагенты, каб пісаў для амерыканскага рынку. Для заробку ніколі я не пісаў. Здольнасць, талент — дар Божы. Я ж працаваў у індустрыі (люблю фізічную працу), хапала мне на куплю дома, аўтамабіля, утрыманне і адукацыю сям'і.

Чалавеку, асабліва з мастацка-творчымі імкненнямі, які прыйшоў сюды з «раскіданага гнязда», Канада нічога духовага не дала дый са сваёй так званай «папулярнай культуры» не магла даць. Мастацкая творчасць сталася для мяне сховішчам-прыпынкам ад хмарнай ці шэрай будзённасці. Бацькаўшчыну пакінуў юнаком, не бачыў яе вачмі ўзрослага чалавека, але добра памятаю, як цярпела, жыла і змагалася, як палілася ў пажарах вайны. Гэны галакост несціхным вулканам гарэў у сэрцы, даў стымул для творчасці...

На жаль, бальшыня нававырослае моладзі загінула — то ў баёх (зусім непадрыхтаваныя) на «даёшь Берлин!», то ў ГУЛАГу за нейкія «грахі пад акупацыяй». Усё ж нешта выгадавалася за тры гады й трапіла на эміграцыю. І дарма, што ім далей фашысцілі з Менску, Берліну й Масквы, яны нямала зрабілі для культуры паняволенага народа.

Кожная дарога да майстэрства бывае пакутлівай, а тым больш у мастацкай літаратуры. Вядома, яшчэ на школьнай лаўцы прынадзіў мяне Янка Купала, Якуб Колас і геніяльны Максім Багдановіч. Чытаеш, захапляешся й думаеш: а як жа яны гэта пісалі? Сустракаешся тут лоб у лоб і з так званым сацрэалізмам (гавару якраз не пра раннія і галоўныя творы таго перыяду вышэйзгаданых творцаў) і чытаеш рэцэнзіі. І вось табе тут падсоўваюць якраз аўтарытэты марксістоўскіх ідалаў... Добра, што веданне моваў дало мне доступ да сусветнай класікі. Ужо куды пазней трапіла ў рукі кніга Парандоўскага «Алхімія слова» (выд. «Прогресс», М., 1972 г.). Кніга гэна шмат дае чытачу, уводзячы яго ў свет вялікіх майстроў літаратуры, дый не толькі польскіх.

**Як вы ацэньваеце феномен беларускамоўнага замежжа і яго месца ў беларускай культуры!**

Тэма феномену беларускамоўнага замежжа — дый ці такі феномен (у разуменні нечага надзвычайнага) існуе — даволі абшырная. У культурнатворчым сектары гэта — працэс, што мае сваё карэнне на бацькаўшчыне. Крыніца і натхненне — патрыятызм, туга па радзіме. Апынуўшыся на чужыне, нашы літаратары, маючы поўную волю творчасці, выдання сваіх твораў, адначасна атрымалі і магчымасць зусім іншае перспектывы паняволенай бацькаўшчыны, якраз той, якой былі пазбаўленыя творчыя сілы на бацькаўшчыне. Хоць акупацыйны рэжым стараўся як мага адгарадзіць ад нас пакінутую родную зямлю і народ, усё ж галоўнага, што там адбывалася, схаваць ім не ўдалося.

**Добра ведаючы ў асноўным рэпрэсіўныя мускулы маскоўскага акупацыйнага рэжыму, гэта не прадстаўляла вялікае цяжкасці. Эміграцыйная публіцыстыка пераважна, якраз з гэтае прычыны, з'явіцца добрым укладам у будучае асэнсаванне цяжкога перыяду гісторыі беларускага народа, беларускае літаратуры.**

**Творы якіх пісьменнікаў беларускай эміграцыі, на вашу думку, сталі з'явай у беларускай і сусветнай літаратуры!**

Вашае пытанне трэба было б паставіць у будучым часе: калі могуць стацца... ці стануцца?

Калі беларускі, сёння яшчэ запрыгонены, народ будзе гаспадаром у сваёй вольнай дзяржаве, у бібліятэках краіны з'явяцца творы, — ясна, нецэнзураваныя, — Наталлі Арсеннеевай, Уладзіміра Глыбіннага, Уладзіміра Клішэвіча, Хведара Ільяшэвіча, выдатнага эсэістанарысіста Юркі Віцьбіча, перадусім крытыка Антона Адамовіча, Аўгена Калубовіча, крытыка Станіслава Станкевіча, Вінцука Адважнага, М. Кавыля, М. Сяднёва і іншых.

Пачэснае месца ў сусветнай літаратуры можа заняць Наталля Арсеннева. Гэтага не будзе, пакуль няма вольнай беларускай дзяржавы, пакуль знойдуцца іншамоўныя перакладчыкі, што пачнуць сур'ёзна вывучаць і перакладаць беларускую літаратуру. Эміграцыйныя паэты і пісьменнікі, калі не маюць заплечча вольнай і самастойнай дзяржавы, не могуць выйсці на сусветную літаратурную арэну, тым больш не маюць шанцаў атрымаць заслужаныя нобелеўскія прэміі.

Нобелеўскі камітэт нярэдка кіруецца палітычнымі меркаваннямі, часта падлягае прэсіі. Прыкладам апошняй можа служыць Іосіф Бродскі. Яўрэй з паходжання, ён піша па-расейску. Мне апавядалі, не без гумару, знаёмыя яўрэі, як яўрэйскія арганізацыі і ўплывовыя адзінкі штурмавалі нобелеўскі камітэт, каб далі Бродскаму прэмію. Сувязі і сканцэнтрава-

**ВЫСТАВЫ**

# Пра час і пра сябе

Пра творчасць Юзафа Пучынскага менавіта так варта і сказаць. І ў гэтых словах — слушнае вызначэнне таго, што зрабіў мастак (сёлета ён адзначае сваё 70-годдзе) і што робіць сёння. Персанальная выстаўка Ю. Пучынскага ў Палацы мастацтваў пераканала, што ён адпачываць не збіраецца: са 120 твораў экспазіцыі сто выкананы нядаўна. ,

Як новыя, так і ранейшыя работы яднае ўвага мастака да праяў жыцця, жаданне сказаць аб падзеях, якія кранулісл і ўласнага лёсу. Вось карціна «На Салаўкі». Яна — не даніна моднай сёння тэме. Твор напісаны ў 1982 годзе, калі пра гэта пісаць не рэкамендавалася — сам унутраны цэнзар падказваў мастакам: лепей прамаўчаць.

Твор народжаны памяццю мастака. У роднай Уздзе з маленства ведаў дружную, працавітую сям'ю дзядзькі Тамаша, у якога было дванаццаць дзяцей. З некаторымі з іх Юзаф хаўрусаваў, часта заходзіў у хату, дзе гасцям заўсёды былі рады, хоць, прызнацца, жылі бедна. Мела сямейка дзвюх кароў, каня, а з апраткі — некалькі кажухоў. Аднак некаму з пільнага начальства якраз і кінуліся ў вочы гэтыя кажухі, і дзядзька Тамаш быў аб'яўлены кулаком, а, значыць, ворагам народа і...

...На пярэднім плане—агромністыя вочы хлапчука, у якіх, здаецца, увесь свет. Тое жудаснае, што адбываецца, паказана ў яго за спіной. Хлапчук як быццам нічога не заўважае. Ён абапёрся на паркан, ён не хоча бачыць, не хоча памятаць таго, што адбываецца, ды не ведае, што і праз дзесяцігоддзі будзе жыць у яго памяці дарога на Салаўкі, якая пачалася для сям'і дзядзькі Тамаша з гэтага самага моманту, калі ён стаў «ворагам народа». Хлапчук усё запомніць: і энкэвэдзіста, які моўчкі назірае за высылкай, і тое, як клалі на павозку няхітры скарб, і дакор у вачах добрых, ні ў чым не вінаватых людзей.

А ў карціне «Развітанне ў Альхоўцы» — драматызм, так сказаць, будзённы: стараяназаўсёды пакідае родную вёску, пераязджае да сына ў горад. Прыватны выпадак? Як сказаць. У прыватным выпадку мастак убачыў тыповае і характэрнае. Не проста сын забівае вокны ў хаце. Гэта ставіцца крыж і на трывалых народных устоях, якія рушацца і гатовы крычаць аб абароне.

«Вясна 1945-га» — таксама (як і «Развітанне ў Альхоўцы») з новых работ. Яна датуецца 1989 годам. Няцяжка здагадацца, што ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны Ю. Пучынскі пісаў твор да 45-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пісаў па абавязку сумлення і па грамадзянскім абавязку. Мастак знайшоў удалы сюжэтны ход. Дзяўчына-баец спынілася ля сваёй, па сутнасці, аднагодкі, увасобленай у скульптуры. Сустрэча гэта ў адным з нямецкіх гарадоў адбылася ў самым канцы вайны. Дзве маладосці, два лёсы і той жа самы драматызм жыцця, на гэты раз ці не з трагічнай афарбоўкай, бо хто ведае, ці вернецца гэтая беларуская дзяўчына жывой у свае родныя мясціны.

Юзаф Пучынскі чуйны да ўнутранага свету чалавека. Людскую адухоўленасць перадае так, што ўзнікае адчуванне знаёмасці з тым ці іншым персанажам. Нездарма мастак прызнаецца: «Асабліва люблю дзядоў пісаць. Зірнеш на яго і адразу бачыш на твары летапіс усяго нялёгкага жыцця». Любоў жа — зарука поспеху, у чым пераконваюць работы «Партрэт старога», «Дрывасек». Увогуле, партрэты Ю. Пучынскі пісаць умее адмыслова і робіць гэта, як правіла, тады, калі знаходзіць чалавека, не ўвасобіць воблік якога проста не можа. Скажам, «Партрэт Рыгора Барадуліна» з'явіўся і як вынік асабістага знаёмства з паэтам, і як сведчанне замілавальнага стаўлення да яго паэзіі.

Асэнсаванне біблейскіх сюжэтаў («Юдзіф», «Іоў», «Саул і прарок Самуіл» і іншыя творы) — магчымасць для мастака пагаварыць аб вечнасці агульначалавечых каштоўнасцей, задумацца над вытокамі дабра і зла, наблізіцца да ісціны. І зноў жа — зразумець наш сённяшні складаны час, даць адказ на тыя вечныя пытанні, над якімі задумваецца ўжо не адно пакаленне творцаў і на якія па-ранейшаму шукаць і шукаць нам адказ.

Хто мы, адкуль, куды ідзём? Наблізіцца да ісціны можна, ведучы гаворку пра сам час і пра сябе ў гэтым часе. Гэта і робіць Ю. Пучынскі.

А. М.

# МОСТ УЗДОЎЖ РАКІ?

(Працяг. Пачатак на стар. 2—3).

У гэты здзеклівы і фатальны час мае думкі аб роднай Беларусі. Як жа ты, мая родная і бясконца блізкая? Цябе неаднойчы расстрэльвалі і чацвертавалі, а ты заставалася жывою. Ты была і салдаткаю, і партызанкаю, гераічнай працаўніцаю і чароўнай пявунняй. Ты ганарылася сваімі светлымі рэкамі і блакітнымі азёрамі, шумлівымі барамі і запаветнымі пушчамі. Вось толькі не шанцавала табе на гаспадароў. Яны прадавалі цябе і перапрадавалі ненажэрнаму Сярпу і Молату, якія сімвалізавалі не мірную працу, а разбурэнне. Нават самыя «народныя» з іх паслугачы-самадзержцы кляліся табе ў вернасці, а сваё лакейскае вуха востра трымалі на стольны маскоўскі двор: «Чего изволите?» А маскоўскі двор «изволил»:

Высекчы цудоўныя лясы і знішчыць рэкі...

Атруціць родную зямельку вялікай хіміяй...

Адабраць у народа матчыну мову, культуру і ўсю багатую, нацыянальную спадчыну...

А ты выжыла і на гэты раз, мая Беларусь. Перабудова ўскалыхнула цябе, растрывожыла і абнадзеіла. Мы выбралі ў Вярхоўны Савет сваіх прадстаўнікоў і вельмі спадзяваліся на тое, што будзем, нарэшце, будаваць сваё жыццё не па волі камуністычных абяцальнікаў, а па сваёй, народнай волі. Нашы выбраннікі кляліся аддаць усе свае сілы і здольнасці, каб палепшыць жыццё свайму змардаванаму народу. Напачатку яны дружна рынуліся да парламенцкай трыбуны, да радыё- і тэлемікрафонаў, да газетных палос. Мы пазнавалі іх на трыбунах па галасах. Гладкімі, добраабсмактанымі словамі, прафесійна пастаўленымі галасамі загаварылі вадалей і абяцальнікі — былыя наменклатурныя «трудавікі» з вузкай спецыялізацыяй. Словам, бальшавікі...

Другая катэгорыя дэпутатаў загаварыла не дужа складна, але з юнацкім задорам, з гаручай слязой за наша вялікае народнае гора. І тая, і другая групоўкі ў сваіх перапалках абавязкова спасыліся на свой народ: «Народ нас не зразумее». І яны як у ваду глядзелі: народ і сапраўды перастаў іх разумець. Ніхто цяпер не скажа, дзе правыя, а дзе левыя, дзе «жывыя» камуністы, а дзе дэмакраты...

Горка ўсё гэта і трывожна.

Ва ўсе органы ўлады з нізу да самага верху па-гаспадарску ўладкавалася наменклатурная эліта. Ці не будуем мы зноў той самы знакаміты мост уздоўж рэчкі па пераходзе ад сягонняшняй галоты да чалавечага жыцця?

Цяпер наша рэспубліка знемагае ад упартага палітычнага супрацьстаяння. Ужо каторы час левыя і правыя высвятляюць свае адносіны: адны асцерагаюцца натуральнага капіталізму на беларускай зямлі, другія, як чорт крыжа, баяцца збуцвелага сацыялізму. А чалавеку-працаўніку напляваць і на тое, і на другое. Ён хоча ствараць сваімі рукамі ўласнае сапраўднае жыццё, а не эксперыментальныя, сумніцельныя схемы.

Тузаючыся за праклятыя «ізмы» і высокія кіраўнічыя седалы, нашы рулявыя забываюцца на свой шматпакутны народ,

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

# СА СПАДЧЫНЫ КАНДРАТА ЛЕЙКІ

**Імя Кандрата Хведаравіча Лейкі, педагога, пісьменніка, да нядаўняга часу шырокаму колу чытачоў было невядома. Лёс не шкадаваў яго пры жыцці, а пасля смерці наступілі доўгія гады забыцця. Апошнім часам знойдзены некаторыя архіўныя матэрыялы К. Лейкі, яго неапублікаваныя творы. Артыкулы М. Сідаровіча «Кандрат Лейка» («Беларуская мова і літаратура ў школе», 1989, № 11) і «Вяртанне» («Беларусь», 1990, № 10) пазнаёмілі чытача з біяграфіяй арыгінальнага пісьменніка, далі некаторае ўяўленне пра яго творчасць.**

**Нарадзіўся К. Лейка ў 1860 годзе ў вёсцы Збочна Слонімскага павета Гродзенскай губерні. Пасля заканчэння ў 1879 г. Свіслацкай настаўніцкай семінарыі працаваў настаўнікам у Косаве, за 35 вёрст ад роднай вёскі. У гэты ж час пачаў пісаць. У асноўным гэта былі вершы на «забароненай» беларускай мове. У 1884 годзе па стане здароўя пераязджае жыць на Харкаўшчыну, дзе працягвае займацца педагагічнай працай. У 1893 годзе ў Харкаве выдаецца кніга К. Лейкі «Русская азбука. Учебник родной грамоты для классного и домашнего употребления». Адначасова ў розных часопісах і газетах друкуюцца яго педагагічныя артыкулы.**

**У 1911—1912 гг. пісьменнік актыўна друкуецца ў газеце «Наша Ніва». Сярод твораў — вершы, байкі, казкі, апавяданні. «Надта здольны нашаніўскі апавядальнік», — казаў пра Лейку М. Гарэцкі.**

**У 1912 г. у Вільні выходзіць асобным выданнем «Снатворны мак», сцэнка для дзіцячых тэатраў. «Пасьвячаю гэту сваю працу вясковым дзецям Слонімскага павета», — напісаў К. Лейка на тытульным лісце. Гэта была першая спроба ў беларускай літаратуры стварыць п'есу для лялечнага тэатра. У 1914 годзе па ініцыятыве Я. Купалы павінен быў з'явіцца зборнік твораў, які К. Лейка меркаваў назваць «Засеўкі». У сувязі з вайной зборнік не выйшаў у свет.**

**Пісьменнік у 1917 годзе цяжка захварэў, пераехаў да брата на Валынь. Гэты перыяд стаў самым драматычным у яго жыцці. К. Лейка застаўся без сродкаў на існаванне. Тым не менш, будучы цяжка хворым і знаходзячыся ў становішчы «запраўскага жабрака», ён працягваў пісаць. Прадчуваючы блізкую смерць, ён вёў актыўную перапіску з мэтай перадаць на радзіму сваю творчую спадчыну.**

**Увазе чытача прапануюцца лісты К. Лейкі ў Беларускі Камітэт у Варшаве. Адзін з іх адрасаваны непасрэдна Лявону Дубяйкоўскаму, які на той час быў старшынёй камітэта. Да пісьмаў прыкладаецца ліст-завяшчанне К. Лейкі на права захавання, выкарыстання і абароны яго літаратурнай спадчыны Беларускім Навуковым Таварыствам. На жаль, лёс твораў пісьменніка, перададзеных ім у Беларускае Навуковае Таварыства, да гэтага часу невядомы. Лісты напісаны ў лютым-красавіку 1921 г., незадоўга да смерці Кандрата Хведаравіча (ён памёр у верасні 1921 г.).**

**Матэрыялы захоўваюцца ў ЦДАМЛМ РБ (ф. 3, воп. 1. адз. зах. 236, арк. 76—80). Лексічныя асаблівасці арыгіналаў захаваны, арфаграфічныя — часткова.**

**М. АУСЯНАЯ,**
**супрацоўнік ЦДАМЛМ РБ.**

## ВАРШАЎСКАМУ БЕЛАРУСКАМУ КАМІТЭТУ

Мае браткі!

Раней, чым удацца да Вас з сваею просьбаю, лічу патрэбным азнаёміць Вас з сваею асобаю, хто я такі ёсць.

Я — Кандрат Тодараў Лейка, — беларус, грамадзянін Гродзенскае губ., Слонімскага павету, дзярэўні Збочна. Большую часціну свайго жыцця я правёў за межамі свае Бацькаўшчыны — на Украіне ў Харкаўшчыне, дзе на працягу больш як 35 лет займаў ружныя вучыцельскія пасады. У 1917 року з прычыны цяжкае хваробы (паралюш ног) я пакінуў службу і з Харкаўшчыны пераехаў на Валынь у мястэчка Здалбунава Ровенскага павету, дзе цяпер і жыву ці, праўдзівей, мучуся.

Просьбу да Вас, браткі, маю вось якую. Жывучы на чужыне, я зусім не ведаю, што робіцца на маёй Бацькаўшчыне (на пісьмы не маю адтуль ніякіх адгукаў) ці стане яна самастойнаю рэспублікаю, ці мо — не дай Божа — будзе падзелена між суседнімі дужэйшымі панствамі і згубіць назаўсёды сваю культуру, сатрэ сваё абліччa. Як аб гэтым судзіць Парыжскі Велькі Савет? Калі што, браткі, ведаеце аб гэтым — скажэце мне, — гэта першае.

Другое: звесцеце мне, калі ласка, дзе і якая цяпер выходзіць газета на беларускім абшары ў роднай мове?

Трэцяе: будучы ўжо хворым, я напісаў некалькі сшыткаў вершаў, казак і апавяданняў у беларускай мове. Хочацца, каб гэтая мая праца не прапала дарэмна, а пайшла на карысць бацькаўшчыне, але як я адзінокі, дык па смерці маёй усе мае сшыткі могуць быць знішчаны, — дзеля ахароны свае літаратурнае працы хацеў бы ўсе свае сшыткі аддаць у спрат якому-небудзь беларускаму обчаству ці кружку. Калі ведаеце, браткі, гэдакае обчаства альбо кружок, — скажэце мне, дзе яны знаходзяцца.

Чацвёртае: раней падтрымку дзеля свайго паганага жыцця я меў з маленькае вучыцельскае пенсіі, якую мне выдавала рускае правіцельства праз Ровенскае Казначэйства, але як Валынь перайшла ў польскую ўладу, пенсію ў мяне адабралі, і я застаўся запраўскім жабраком: у 1920 року, здаецца, у кветні, я ўручыў на ўвагу польскага Міністра асветы (праз пана Начальніка Панства) просьбу аб выдачы мне дапамогі на пражыццё, але да цяперашняга часу ад М-ра на сваю просьбу не маю ніякай отпаведзі. Шчыра прашу Вас, браткі, калі можна, наведайцеся у М-ва асветы, ці атрымала яно маю просьбу, і калі атрымала, то ці можна мець якую надзею на дапамогу ад польскае ўлады, а то неўзабаве прыйдзецца рукі на сябе налажыць, каб не мучыцца галадухаю. Прашу, браткі, не гневайцеся, што я Вам навязваю лішнюю фатыгу. На одпаведзь прыкладваю паштовую марку.

З шчыраю пашанай К. Лейка

Мяйсцовасць мая:

м. Здалбунава, Ровенскага павета, Валынск. губ. по Николаевской ул., д. № 30 Кондрату Федоровичу Лейко

К. Лейка.

Пісьмо мае памету: «Атказана 4/II-1921 р.»

## У БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ У ВАРШАВЕ

Дабрадзеі!

Ад усяго сэрца шчыра дзякую Вам за вотпісь на маё пісьмо. Вашая прыпіска, што нашая Бацькаўшчына неўзабаве стане незалежнаю, самастойнаю — тхнула ў мае змучаныя грудзі цёплым праменем вешняга сонца; ажывіла маё завяўшаё ад нуды і смутку сэрца. Божа! памажы маёй змучанай Мацеры-Айчызне вырвацца з клешчаў няволі і дай ёй спосаб і сілы выбіцца на роўную шырокую дарогу, якая можа прывесці яе да вольнага жыцця, да шчасця!..

Так жа дзякую Вам, што параілі мне аддаць мае літарацкія труды на спрат і ўладу Беларускаму Навуковаму Таварыству. Як толькі закончу апошні сшытак — зараз усе свае творы перашлю Вам дзеля адпраўкі ў Таварыства. Але каб не выйшла якога непаразумення, прашу Вас уперад спісацца з Б.Н.Т., ці згодна яно будзе прыняць мае труды на асабліва выложанай мною ўмове, копію з якое я пры гэтым пісьме прыкладаю. Як толькі Т-ва дасць Вам згодны з маею воляю адвет, звесціце мне, і я без адкладу прышлю Вам свае сшыткі...

З пашанаю нізка шапкую Вам

Пісьмо мае памету: «На водпісь картачкаю — прыкладваю марку».

## У БЕЛАРУСКАЕ НАВУКОВАЕ ТАВАРЫСТВА

Тысяча дзевяцьсот дваццаць першага року дзесятага лютня, я, прылажыўшы ніжэй сваю руку, грамадзянін дзярэўні Збочна, Слонімскага павету, Гродзенскае зямлі Кандрат Тодараў Лейка, будучы цяжка хворым, усе свае літарацкія труды аддаю на спрат, абарону і ўладу Беларускаму Навуковаму Таварыству на ніжай выложанай умове:

1. Беларускае Навуковае Таварыства, атрымаўшы мае літарацкія труды, скампанаваныя ў сшытках №№ 1—2—3—4—5—6, 7 і 8, мае права безадкладу друкаваць іх у беларускіх тыдзенніках і месячніках, або выпушчаць іх у свет асобнымі кніжкамі, калі знойдзе гэта патрэбным.

2. Апроч таго, я перадаю права Б.Н.Т-ву на ўладу ўсімі маімі творамі, якія раней былі ўжо надрукаваны ў беларускай газеце «Наша Ніва».

3. Без дазвалення Б. Н. Т. ніхто нідзе не мае права друкаваць маіх літарацкіх твораў.

4. Ганарар, ці плату за надрукаванне маіх твораў устанаўляе Б.Н.Т. па сваім узглядзе.

5. Прыбытак, які збярэцца ад надрукавання маіх трудоў, выдаецца мне, а па маёй смерці майму сыну Віталю, каторы цяпер знаходзіцца на гадоўлі ў свае цёткі Настусі Васільеўны Пеліпенкі (м. Кішэнка, Кабяляцкага павета Палтаўскае зямлі). А як, не дай Божа, неўчасе памрэ мой сын, увесь прыбытак ад мае літарац. працы йдзе ў пользу Б. Н. Т.

6. Калі будуць мае труды надрукаваны асобн. кніжк., то гэтыя кніжкі, кажная ў 5 экз., павінны быць высланы ў Азерніцкаё вуч. Слонімскага павету, дзе я колісь пад кірункам вучыц. Вікторскага здабываў першыя пачатку навук.

Кандрат Тодараў Лейка.
13 апрэля 1921 г.

●

Шаноўны Пане Дубяйкоўскі!

Прашу выбачыць, што я так часта прычыняю Вам лішнія клопаты, звяртаючыся да Вас з сваімі пытаннямі, злучанымі суцэла з інтарэсамі мае асобы.

Першае,—я хацеў бы даведацца ад Вас, ці згодзіцца Б.Н.Т-ва ўзяць на спрат мае літарацкія творы, ці не? Можа, Т-ва аб гэтай справе ўжо што-небудзь Вам пісала.

Другое,—ці пойдуць у друк мае вершыкі і карэспандэнцыя, што я паслаў Вам пры перадгэташнім пісьме. Калі пасланыя матэр'ялы спользуе рэдакцыя,—магу паслаць больш.

Трэцяе,—прашу параіць, куды і ў якую ўстанову Р.Р.Р. я мог бы ўдацца з просьбаю аб задавальненні мяне, як адстаўнога вучыцеля, страціўшага суцель працавітасць, грашоваю падмогаю, замест аднятае ў мяне пенсіі, якую я меў раней да адходу Валыні пад польскую ўладу?

За ўсе Вашы паведамленні на мае вышэй вымаўленыя запытанні,—калі Ваша ласка будзе імі здавольніць мяне,—я застануся вечна Вам удзячным... Яшчэ раз сардэчна дзякую Вам за Вашу шчодрую падмогу. Будзьце здаровенькі і шчаслівы.

Нізенька Вам шапкую і моцненька жму Вашу добрую шчодрую руку.

Кандрат Лейка.

Пісьмо мае памету: «23.IV.21. Адказано».

---

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Хрушчоў нагнуўся і падняў капейку і загадаў лічыць капейку грыўняй. Маўляў, падаражэе як, зладзейка, дык будзе працаваць на нас актыўней. Была няхітраю Мікітава рэформа, і вельмі хутка ўсё прыйшло ў норму: нагнуцца за капейкаю — наіўна, не зробіцца капейка наша грыўняй... А што цяпер капейка —багацейка, калі рубель амаль ці не капейка?**

●

**Гэта страшнае слова— асіміляцыя... Гэта салодкае слова —асіміляцыя... Для адных — пагібель нацыі, для другіх —зліццё нацый. Адны — нацыяналісты, другія — інтэрнацыяналісты. А якой жа яна бачыцца — адзіная нацыя? Спрэс з камуністаў-атэістаў? И все будут говорить по-русски? І пагалоўна, без выняткаў, ушчэнт выкараняць акцэнт? А як жа таварышы Сталін, Дземянцей? Исключения только для вождей? О гэта салодкае слова — асіміляцыя! О гэта страшнае слова — асіміляцыя!**

●

**Адзетку на Галі — кашулька і каралі. «А чаго яны вылупіліся?» — абураецца Галя.**

●

**Пісьмо рабочым завода «Луч.». Адлічвае гадзіны завод на праспекце Скарыны. Час, як яго ні сціскалі, мінулае з прышлым звязаў. Колькі пройдзена, пераж ыта, і я вам скажу адкрыта, я б даўно ўжо вашу назву — камбінацыю з трох літар — на роднае слова змяняў.**

●

**На філалагічным факультэце. «Прафесар, як прыкра гавораць вашы хросніцы!» «А нам гэта, выбачайце, абсалютна без розніцы».**

●

**Колькі будзе на Беларусі партый? Дзве, а не дваццаць пяць — адна тасаваць карты, другая патрабаваць: «Пераздаць!»**

●

**Хто скажа зараз, чаму парк названы імем чэлюскінцаў? Што агульнага меў з параходам далёкі ад Поўначы Мінск? Быў пасланы ў льды караблік, для высокіх шырот непрыгодны, і каб прыхаваць памылку, «правадыр» абвясціў бум (гэта быў ягоны метад — як што—«шурум-бурум»). Дык каму паслужыў той подзвіг і хто каго ратаваў? Я думаю пра наіўнасць тых, хто парк называў. Дурнота, яна не канчаецца, узнёсласць — яе нутро, цягнік толькі прыпыняецца на станцыі метро...**

●

**Комплексы: кавуну мроілася, што яго зарэжуць, але нешта знутры гэтаму радавалася, трывожыла, праўда, ці вызваляцца зярняткі — гаспадар напісаў на кавуне «1 кг. — 100 р.» — дык не ж, бралі.**

●

**Як нараджаюцца і паміраюць фразы? Я, дружа, Дон Кіхот і Санча Панса разам. Ледзь бравы Дон Кіхот ухопіць здань за фалды, як Санча Панса тут і лезе з мерай праўды. Хоць месяц і на скон, а шлемам не дакінуць. Які ў фразы кон? І жыць ёй, і загінуць.**

●

**З Канфуцыя: трэба вучыць дзяржаву любіць, бо так — за што яе любіць?**

●

**За рулём лічаць, што язда — таксама хадзьба, толькі не пешая.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 30.07.92 у 18.10.



Індэкс 63856
Тыраж 18068

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12